БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 44 (13576)

26 кастрычніка —1лістапада 1992 года

Кошт 3 рублі.






## Бар'ер, які адгарадзіў народных выбраннікаў ад народа, аб'яднаў непрымірымых...

Фота Сяргея БРУШКО.












## Стоп-факт

### Радыкалы без грошай

– Калі мы не знойдзем крыніц фінансавання, то ўжо ў будучым годзе існаванне партыі будзе пад пытаннем,– зазначыў на пасяджэнні Транснацыянальнай радыкальнай партыі, якое адбылося на мінулым тыдні ў Мінску, член яе Федэральнага савета італьянец Андрыя Тамбуры.

ТРП існуе на ўзносы італьянскіх і французскіх радыкалаў, і пакуль рубель і "заяц" не стануць канверсуемымі, гаварыць аб значным паступленні сродкаў з "савецкага рэгіёна" ў фонд партыі не прыходзіцца. Італьянскі госць параіў беларускім аднадумцам больш шырока агітаваць жыхароў рэспублікі ўступаць у яе рады і тым самым папоўніць казну.

Плануецца правесці збор подпісаў за адмену смяротнага пакарання і звярнуцца да ўрада з патрабаваннем перагледзець пакаранне за наркабізнес.

Аляксандр СУХАВЕРХІ.

### "І Ленін такі малады..."

29 кастрычніка Ленінскі камсамол адзначыў свой дзень нараджэння. Ужо 74-ы. На гэты раз святкаванне прайшло без асаблівай пампезнасці.

У Мінску ў 8 гадзін раніцы камсамольцы ўскладалі кветкі да помніка Леніну на плошчы Незалежнасці, наведалі ветэранаў ВЛКСМ. Многія старыя камсамольцы атрымалі віншавальныя паштоўкі. Як зазначыў Сяргей Вазняк, першы сакратар ЛКСМ Беларусі, на правядзенне больш шырокіх мерапрыемстваў проста не хапае часу, трэба рыхтавацца да XXXII з'езда Ленінскага камсамола Беларусі, вырашаць мноства арганізацыйных пытанняў, звязаных з правядзеннем форуму.

Дарэчы, з'езд пачне сваю работу ўжо 31 кастрычніка ў будынку ЦК СМБ.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### Канферэнцыя матэматыкаў

У г. Гродне на працягу чатырох дзён праходзіла VI канферэнцыя матэматыкаў Беларусі.

Работа канферэнцыі была арганізавана, у асноўным, па секцыях. У першыя два дні адбыліся і пленарныя пасяджэнні. На першым з іх заслуханы даклад 'аб дасягненнях беларускіх матэматыкаў у галіне алгебры і геаметрыі за апошнія дзесяць гадоў. Высока адзначаны працы сусветнавядомай навуковай школы па тэорыі фармацый алгебраічных сістэм.

*Толькі лічбы*

## БЕСПРАЦОЎЕ? ПАКУЛЬ ПЕРАДЫШКА

Выпускнікі мінскіх школ і вучылішчаў без справы не застануцца. Да такога суцяшальнага вываду прыйшлі работнікі ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама, сабраўшы звесткі аб размеркаванні сваіх выхаванцаў. З 40778 выпускнікоў гэтага года толькі 4505 чалавек не прадоўжылі вучобу і не працаўладкаваліся.

У гэтым немалая заслуга педагогаў сталіцы, якія стварылі сістэму адукацыі, накіраваную на патрэбнасці рынку. Частка выпускнікоў базавай школы (дзевяць класаў) працягвае адукацыю па праграмах паглыбленага навучэння з арыентацыяй на паступленне ў ВНУ. Калі школьнік не вызначыў, кім ён жадае стаць, ён можа вучыцца ў звычайных адукацыйных класах. Больш за 200 дзяцей наведваюць рэальныя класы, дзе разам з атэстатам выдаецца пасведчанне аб кваліфікацыі. На базе ПТВ і ВВК набраны прафесіянальныя групы з тых маладых людзей, якія не жадаюць атрымліваць сярэднюю адукацыю, але якія імкнуцца авалодаць працоўнай спецыяльнасцю. Дададзім, што ўжо другі год 400 падлеткаў з сямей з дрэнным становішчам ва ўзросце ад 14 да 16 гадоў набываюць прафесійныя навыкі ў вучэбна-вытворчых участках, абсталяваных на базе ўсіх ВВК горада. Такім чынам, практычна ўсе выпускнікі базавай школы пакуль што заняты справай.

Цяжэй уладкавацца ў жыцці выпускнікам 11-х класаў і ПТВ. Калі былыя школьнікі могуць яшчэ пакруціцца пару гадкоў у ВНУ або прафтэхвучылішчах, то маладым спецыялістам неабходна шукаць рабочае месца. І рабіць гэта пры змяншэнні сацыяльнага заказу на кадры ўсе цяжэй.

— Мы адмовіліся ад вузкай спецыялізацыі і прыкладаем усе намаганні, каб навучыць дзяцей прафесіям, што неабходны як у дзяржаўным, так і прыватным сектары. Рыхтуем шматпрофільных спецыялістаў, — гаворыць намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама М.В.Ілын. — Чым больш чалавек мае спецыяльнасцей, тым прасцей адшукаць месца на рынку працы. Веды — лепшая абарона ад беспрацоўя.

Аляксандр СУХАВЕРХІ.

*Падпіска–93*

## "НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ"?

Заканчваецца чарговая падпісная кампанія, а праблемы, якія ўзніклі разам з ёй, застаюцца: чытачам трэба па магчымасці не вельмі апусташаць свае кашалькі, а падпісным выданням – захаваць свой тыраж і папулярнасць. Сёння газеты нагадваюць раён "чырвоных ліхтароў". Яны, падобна спакуслівым жанчынам, заклікаюць да сябе кліентаў і стараюцца выставіць на вочы ўсім свае вартасці.

А як гэтыя справы абстаяць у школе? Што думае пра гэта "новае пакаленне", якое ўжо сёння "выбірае"?

Большасць на пытанне – а ці ведаеце вы пра падпіску ў школе – здзіўлена глядзелі і паціскалі плячыма. "Якая падпіска, – гаварылі вучні малодшых класаў, – калі нам на гумку не хапае?!". Школьнікі 5-8 класаў сказалі: "Чулі, але нічога выпісваць не будзем – не хочам грошы траціць. Нам бацькі ўсё выпішуць". А калі спытала, якія газеты і часопісы чытаюць, назвалі "Камсамолку", "Мы", "Равеснік".

Не збіраюцца выпісваць беларускія газеты і вучні старэйшых класаў. Толькі адзін з іх прызнаўся, што выпісаў для сябе "Рэспубліку", таму што там ёсць праграма камерцыйнага тэлебачання. Амаль усе старшакласнікі, калі трэба, купляюць газеты ў кіёсках альбо чытаюць тое, што выпісваюць бацькі. Вучаніца 11 класа паведаміла мне: "Мы не выпісваем беларускіх газет, таму што ў іх усё вельмі аднастайнае. А нам і так забіваюць галаву ў школе рознай інфармацыяй, і тая, якая ёсць у нашых газетах, нам не патрэбна".

Лідзія РЫЖАНКОВА,
няштатны кар."ЧЗ".

*Оба-на!*

## "...ТАДЫ ЗДЫМАЙ ГАДЗІННІК!"

Такія словы зараз у любы момант могуць пачуць менчукі. І не ад хуліганаў, а ад кантралёраў дзе-небудзь на канцавым прыпынку аўтобуса, тралейбуса, трамвая.

Не, яны не збіраюць калекцыю наручных гадзіннікаў, нягледзячы на тое, што к вечару іх рукі ўвешаны бранзалетамі, як у таго афрыканца з племені тумба-юмба. Проста, калі ў вас няма праязнога і дваццаці пяці рублёў на штраф за безбілетны праезд ці (на зусім горшы выпадак) дзесяткі, каб палюбоўна разысціся з "вартавым транспарту", то ён можа прапанаваць вам залажыць ваш гадзіннік, пакуль не знойдзеце неабходную суму. Амаль як у ламбардзе! І не суньце, калі ласка, вашыя студэнцкія білеты, заліковыя кніжкі і таму падобныя "пасведчанні асобы", бо трэба нешта больш грунтоўнае. І што ж рабіць беднаму студэнту, які спяшаецца на лекцыю, ці таму, хто спазняецца на завод? Выбару няма, а час падганяе. І ён расшпільвае раменчык, а яго "Прамень", "Зара", "Слава" аказваюцца на чужой руцэ. Разлік нескладаны: кошт самага звычайнага гадзінніка перавышае суму штрафу як мінімум у 30-40 разоў. І безбілетнік абавязкова прыйдзе па іх у дамоўленае месца ў дамоўлены час, а заадно і верне свой "даўжок". Праўда, не спадзявайцеся атрымаць квітанцыю аб уплаце, бо кантралёр панёс усё ж нейкія маральныя страты.

Што гэта, указ зверху ці своеасаблівая барацьба за ўсеагульную справядлівасць? Невядома, які разумнік да гэтага дадумаўся, але, паважаныя "зайцы", магу вам параіць: калі ў вас няма ні білетаў, ні грошай, ні наручных гадзіннікаў, то лепш хадзіце пяшком. А калі адважыцеся паехаць, хавайце свае залатыя пярсцёнкі, завушніцы, а таксама зубы, бо незнарок пільнае вока кантралёра вылічыць вашыя багацці.

Сяргей МАКАРАНКА,
няштатны кар."ЧЗ".

*Дабрачыннасць*

## НЕ ЗАБЫЦЦА Б ПРА БУДУЧЫНЮ

"Сустрэўшыся са мной на вуліцы, мічыганцы спяшаюцца дастаць з кішэняў свае чэкавыя кніжкі, бо ведаюць, я заўсёды прашу грошы на дзіцячыя праграмы", – так з усмешкай расказвае пра сябе даўні сябар Беларускага дзіцячага фонду Джэры Кортні.

Спадар Кортні ўзначальвае адзін з буйнейшых лагераў адпачынку для дзяцей і падлеткаў у штаце Мічыган. Каля трыццаці тысяч школьнікаў розных нацыянальнасцей адпачываюць у лагеры за год.

Два гады назад Кортні выступіў з ініцыятывай арганізаваць азараўленне дзяцей з анкалагічнымі захворваннямі з Беларусі. Больш за дваццаць хворых дзяўчынак і хлопчыкаў змаглі паправіць сваё здароўе на спецыялізаваных зменах пад назвай "Злаві вясёлку". А візіт Джэры ў Беларусь быў прысвечаны... здзяйсненню самай патаемнай ягонай мары – сустрэцца з дзецьмі, што сталі для яго роднымі і за якіх баліць сэрца.

Джэры – аптыміст і перакананы, што Амерыка павінна і можа стаць выдатнай краінай у адносінах да абароны правоў і інтарэсаў дзяцінства. Такую б перакананасць і нам напярэдадні прыняцця чарговай сесіяй Вярхоўнага Савета Закона "Аб правах дзіцяці"!..

Людміла ГРАМОВІЧ,
рэферэнт-журналіст
Беларускага
дзіцячага фонду.
Фота Аляксандра
МАЛЧАНАВА,
БелаПАН.

Старонку вядзе
Франц ЛЯВІЦКІ,
тэл. 32-13-04

*Правінцыяльная хроніка*

### "РАНІЦА" Ў ГЕРМАНІІ...

Цеснавата пакуль беларускаму фальклору на радзіме, дык мо за мяжою знойдзе ён сапраўднае прызнанне? Не так даўно аршанскі гарадскі фальклорны ансамбль "Раніца" пабываў у Германіі, дзе ён браў удзел у міжнародным свяце міру. Дадому фальклярысты вярнуліся не з пустымі рукамі: прывезлі медыкаменты і аднаразовыя шпрыцы. Пакуль айчынная медыцына спіць, лячыцца будзем у артыстаў.

### ...А Ў ОРШЫ — БЕЖАНЦЫ

Нарэшце хваля бежанцаў дакацілася і да Беларусі. Жывуць у Оршы бежанцы з пасёлка Калхіда, што ў Абхазіі. Спадзяёмся, тут яны змогуць забыцца пра жахі братазабойчае вайны. У Беларусі — як у Бога за пазухай. Пакуль што. А тым часам гарадскія ўлады нават грашовую дапамогу абяцаюць дарагім гасцям з поўдня. Ці хопіць неўзабаве на ўсіх?

### КАЛІ ДОШКІ АДКРЫВАЮЦЬ, ЗНАЧЫЦЬ, ГЭТА КАМУСЬЦІ ПАТРЭБНА...

Мемарыяльная дошка ў гонар народнага артыста Беларусі Анатоля Труса адкрылася ў Віцебску. Акцёр-коласавец, чалавек шчодрае душы ды багатага таленту, Анатоль Трус пайшоў з тэатра тры гады таму, пайшоў у бессмяротнасць.

На адкрыццё мемарыяльнае дошкі прыйшлі калегі з тэатра імя Якуба Коласа, выступіў мэр горада Віцебска Мікалай Федарчук.

Падрыхтаваў
Уладзімір МІХНО.

### ЗАЗІРНІЦЕ Ў СВАЮ ДУШУ!

Нядаўна ў горадзе адбыўся несанкцыяніраваны пікет беспрацоўных. Актыўны ўдзел прынялі ў ім прадстаўнікі Федэрацыі анархістаў Беларусі.

Якіх жа людзей гуртуе вакол сябе чорны "непаўторны" сцяг?

Як высветлілася, у асноўным гэта — адукаваныя і мэтанакіраваныя "дамы и господа". Самае дзіўнае, што ў кожным "смяротным" чалавеку жыве "непахісны" анархіст...

### НЕ НОВАЕ, А ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ

Упершыню адкрыўся ў нас гарадскі політэхнічны ліцэй. Ужо створаны тры класы. Уладкавацца ў прэстыжную навучальную ўстанову нялёгка. Трэба мець добры запас ведаў, каб прайсці спецконкурс. У лік шчаслівчыкаў трапляюць самыя старанныя і таленавітыя.

### ПАЖАРТАВАЛІ ЗАМЕЖНІКІ

Днямі "палымянае" прывітанне з Італіі атрымалі жыхары горада. У магазіне "Дары прыроды" яны прыдбалі... дэфіцытны алей. Горкае расчараванне чакала многіх гараджан: хадавы тавар у замежнай упакоўцы аказаўся заляжалым і непрыгодным для ўжывання ў ежу. Відавочна, атрымліваецца, як у той знакамітай прыказцы: "На табе, Божа, што нам нягожа!".

Падрыхтавала
Ганна
АТРОШЧАНКА,
г.Гомель.



## Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Звяртайцеся па тэлефоне 32-13-04



### ДЗЕ НАБЫЦЬ СКВ?

*"Адкажыце, калі ласка, дзе ў нашым горадзе можна набыць даляры. Толькі не раіце, калі ласка, Камароўку.*

**Г.Малафеева, г.Мінск."**

Як паведамілі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, у Мінску можна абысціся і без "чорнага" рынку. Так, даляры можна купіць у Белбізнесбанку, Прыорбанку і Знешэканомбанку. Былі б "драўляныя".

Але, як высветлілася, свабодна купіць даляры на самай справе можна толькі ў Знешэканомбанку. Прыорбанк прадасць вам валюту толькі ў тым выпадку, калі вы едзеце за мяжу (і ў якасці доказу прадставіце візу). А Белбізнесбанк увогуле даляраў не прадае. І не таму, напэўна, што не мае, а таму, што чакае, хутчэй за ўсё, павышэння курсу.




### ПАДПІСКА ЗАКАНЧВАЕЦЦА. ПРАЦЯГУ НЕ БУДЗЕ.

*"Ці будзе падоўжана падпіска на беларускія газеты і часопісы на наступны год?*

**С.Шыцавічаў, г.Брэст".**

Пытанне цікавае. Тым больш, што далёка не ўсе газеты і часопісы атрымалі столькі падпісчыкаў, колькі ім хацелася б. У паштовым упраўленні Міністэрства сувязі Беларусі паведамілі, што падпіску планавалася падоўжыць да 15 лістапада. Але гэта ў тым выпадку, калі будуць паступаць заяўкі на падоўжанне падпіскі ад рэдакцый. Апошнія ж, як ні дзіўна, маўчаць. А таму апошні дзень падпіскі — 31 кастрычніка. Спяшайцеся!

### ЧАСОПІС МАЛАДЫХ? БУДЗЕ!

*"Чуў, што ваш штотыднёвік з'явіўся заснавальнікам новага часопіса. Што гэта за часопіс?*

**М.Селевіч, г.п.Астравец".**

Так, сапраўды, "ЧЗ" выступіла заснавальнікам часопіса, які называецца "Першацьвет".

Як паведаміў Алесь Пашкевіч, адказны сакратар гэтага выдання, "Першацьвет" — гэта часопіс маладых літаратараў Беларусі і толькі для іх прадастаўляюцца яго старонкі.

Першы нумар выйдзе дзесьці ў лістападзе. У часопісе — рубрыкі: "Паэзія" і "Проза", "Жароўня", "Повязь", "Крытыка" і "Гасцёўня" (у апошняй, дарэчы, чытачы змогуць сустрэцца з вядомымі літаратарамі). Тыраж першага нумара — 2000 экземпляраў. Але, як зазначыў А.Пашкевіч, ён будзе павялічаны.

Рэдакцыя часопіса адмовілася ад звычайнай падпіскі і распаўсюджванне нумароў будзе праводзіць сама. Ужо атрыманы заяўкі на "Першацьвет" ад беларускіх суполак у Вільні, Маскве, Польшчы, Амерыцы і інш.

### НЕЗАЛЕЖНЫ АЎТОБУС

*"Ходзяць чуткі, што на МАЗе рыхтуюцца паставіць на выпуск паралельна з грузавымі машынамі яшчэ і аўтобусы. Ці праўда гэта?*

**Г.Налівайка, Пастаўскі раён".**

Чуткі і сапраўды ходзяць, але, як паведамілі на заводзе, даваць якія-небудзь каментарыі па гэтаму пытанню яшчэ ранавата. Таму што пакуль яшчэ не вырашаны ўсе пытанні, звязаныя з наладжваннем выпуску аўтобусаў. Параілі толькі патэлефанаваць у наступным годзе (можа што і высветліцца).

Так што можна амаль упэўнена сцвярджаць, што МАЗ выпусціць аўтобусы. Якія і калі — пакажа час.

### ПАРНАГРАФІЧНЫЯ ПАРАДОКСЫ

*"Паведаміце, калі ласка, якія выданні ў сувязі з кампаніяй па барацьбе з парнаграфіяй закрыты?*

**І.Лапін, г.Баранавічы".**

Як паведамілі ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, Мінгарвыканкам сапраўды склаў спіс "эратычных" выданняў (куды ўвайшлі нават такія, дзе эротыкай і не пахне). У сувязі з гэтым крокам у Міністэрстве культуры была створана рэспубліканская экспертная камісія па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі і прадметаў на наяўнасць у іх прыкмет парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці, якая разгледзела гэты спіс і прызнала, што ні адно з указаных там выданняў не з'яўляецца ні эратычным




(тым больш парнаграфічным), ні жорсткім...

А Мінгарвыканкам, між тым, павялічыў штраф за распаўсюджванне парнаграфіі з пяці да дзесяці тысяч рублёў. А пра тое, каб адкрыць спецыялізаваную краму па продажу парнаграфічнай літаратуры, не падумаў (ці мо забыўся?). Парадокс?

### РЫСОРНЫ ЭКАЛОГІІ НЕ ПАМЕХА?

*"Заводскі раён сталіцы і так вельмі забруджаны рознымі вытворчымі выкідамі. А тут яшчэ ўбачыў, што на тэрыторыі рысорнага завода будуюцца новыя карпусы. Па чыёй жа гэта ўказцы?*

**В.Дубовік, г.Мінск".**

Каб адказаць на гэта пытанне, прыйшлося набраць нумары добрага дзесятка тэлефонаў розных начальнікаў, дырэктараў, старшынь і г.д. І вось нарэшце мяне накіравалі да Уладзіміра Іванавіча Лявонава, галоўнага архітэктара Заводскага раёна горада Мінска.

Ён паведаміў, што рашэнне аб будаўніцтве новых карпусоў было прынята яшчэ некалькі гадоў назад па загаду зверху. "Мы сцвярджалі, што не трэба пашыраць вытворчасць у гэтым раёне, але ніхто і слухаць не хацеў". У.І.Лявонаў удакладніў, што будуецца галоўны цэх рысорнага завода па зборцы элементаў, які ніколькі не пагоршыць экалагічнае становішча горада. Будзем спадзявацца.




### ШТО РАБІЦЬ З "ЗЯЛЁНЫМІ"?

*"Купіў сабе паўгода назад даляры, а цяпер не ведаю, што рабіць: прадаць іх ці пачакаць? Параіце!*

**П.Валэйка, г.Полацк."**

Тут параіць нялёгка. Асабліва нам, людзям, далёкім ад бізнесу. І таму прыйшлося звярнуцца з Вашым пытаннем у Нацыянальны банк Беларусі. Там у валютна-эканамічным упраўленні паведамілі, што курс даляра на 27 кастрычніка склаў 395 рублёў. Так што, калі Вы прыдбалі свае "зялёненькія" паўгода назад, то віншуем: прыбытак неблагі.

А прадаваць ці пачакаць, пытанне вельмі казытлівае. Бо курс даляра непрадказальны. Але па сакрэту параім: лепш пачакайце.

**На пытанні адказваў Франц ЛЯВІЦКІ. Тэл. 32-13-04.**

### СЕМ ЦУДАЎ СВЕТУ

*"Безумоўна, кожны чуў пра сем цудаў свету. Але далёка не ўсе ведаюць, што гэта за цуды. Хацелася б прачытаць пра іх у вашай газеце.*

**У.Міту́певіч, г. Магілёў".**

Егіпецкія піраміды. Магільныя склепы фараонаў чацвёртай егіпецкай дынастыі Хуфу (Хеопса) і Хаўры (Хефрэна). Узведзены каля пяці тысяч гадоў назад. Вышыня піраміды — 137 метраў. Складзены з 2 мільёнаў 300 тысяч каменных глыб, высечаных у форме куба.



Вісячыя сады Вавілона. Вавілонскі цар Навуходаносар стварыў іх для сваёй маладой жонкі, мідыйскай прынцэсы. Аднак яе імя з цягам часу пераблыталася з імем іншай асірыйскай уладаркі, і сады сталі вядомы як сады Семіраміды.

Храм Артэміды Эфескай. Узведзены прыкладна ў 450 годзе да нашай эры дойлідам Хесіфронам. Нічым невядомы чалавек Герастрат дзеля славы і бессмяротнасці спаліў храм Артэміды ў 336 годзе да нашай эры. Эфесцы прынялі рашэнне пакараць Герастрата забыццём. Аднак атрымалася наадварот. Імя падпальшчыка дайшло да нашых дзён.

Галікарнаскі маўзалей. Паводле сведчання рымскага гісторыка Аўла Гелія, правіцелем старажытнай Карыі быў усеўладны Маўзол. Калі ён памёр, яго жонка Артэмісія загадала спаліць яго цела. Затым змяшала попел з духмянымі травамі і стаўкла яго ў парашок. Высыпала гэты парашок у чашу і выпіла. На памяць аб мужу яна ўзвяла грабніцу.

Калос Радоскі. Узведзены прыблізна ў 304 годзе да нашай эры ў знак вызвалення горада Радоса ад заваёўнікаў.

Александрыйскі маяк. Пабудаваны прыкладна ў 285 годзе да нашай эры на востраве Фарос. Вышыня — 120 метраў. У той час стваральнікам манументаў забаранялася выбіваць сваё імя на ўзведзеных ім збудаваннях. Але, жадаючы сябе праславіць, у парушэнне загаду правіцеля вострава Пталамея II, архітэктар выбіў на цокалі маяка "Састрат сын Дэкстрыфона з Кніда прысвяціў багам-выратавальнікам дзеля мараходаў".

Статуя Зеўса Алімпійскага. Ідэю для стварэння статуі Зеўса грэчаскаму дойліду Фідэю даў наступны міф. Гаспадару Алімпа Крону аракулы прадказалі, што ўладу ад яго забярэ сын. Каб не дапусціць гэтага, Крон паядаў усіх сваіх дзяцей. Але Рэя, жонка Крона, падсунула замест Зеўса буйны камень, які той праглынуў, не заўважыўшы падману.

**Падрыхтаваў А. БЯРЖЫНСКІ.**

# А ЦІ БЫЎ ВАСЯ?

## Парламенцкая трагікамедыя

*(Са стэнаграмы пасяджэння сесii Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусьад 22 кастрычні ка 1992 г.).*

**Вячаслаў Кебіч:** Мне ўвесь час Мінсельхарч, я не кажу пра калгасы і саўгасы, даказваў, што ён не можа рэалізаваць мяса па цане больш чым па 80—90 рублёў за кілаграм, і я гэтаму ўжо амаль паверыў... І раптам знаходзіцца нейкі ВАСЯ, зусім радавы чалавек ВАСЯ, які кажа:"Паважаны прэм'ер, дайце мне 100 тысяч тон мяса, я вам рэалізую яго на працягу бліжэйшага паўтара тыдня па цане не менш чым 140 рублёў за кілаграм". Ну што такое 80 і 140 рублёў, я разумею. Вы разумееце, у чым справа? Мы далі такую магчымасць ВАСЮ, і ён гатовы ўсё рэалізаваць. Ён пастаянна шукае мяне, каб спытаць, чаму яму далі права рэалізаваць толькі дзве тысячы тон, а не дзесяць... Таму што, бачыце, ВАСЯ ведае, што ён можа прадаць... А калі ён стане ў Мінсельхарчы, то ён будзе ўжо не ВАСЯ, ён стане Мінсельхарчам.

**Зянон Пазьняк:** Казахстан валодае манаполіяй на збожжа, Расія — на нафту, на валюту, а той, хто займаецца гэтымі дзяржаўнымі пастаўкамі, той не ВАСЯ. Каб быў ВАСЯ, ён быў бы зацікаўлены выйсці на знешні рынак. Гэта не так проста. Нават калі мы будзем мець канкурэнтаздольную прадукцыю, не так лёгка трапіць на знешні рынак. Там усё размеркавана. Трэба, каб быў ВАСЯ, а не ВАСЯ — не зацікаўлены. Таму ён будзе там, дзе лягчэй.

**Баляслаў Мяць:** Наступнае пытанне — вытворчасць ялавічыны. Вы, Вячаслаў Францавіч, вядома, закранулі крыху, але, прабачце, якісьці ВАСЯ дапамог здаць мяса. Я вам скажу, што ў нашых гаспадарках ВАСЯЎ многа, таму я думаю, калі б у нас была свабода (без ліцэнзій і гэдак далей), мы б, вядома, знайшлі, дзе збываць гэта мяса.

**Сяргей Папкоў:** Тут Вячаслаў Францавіч нам байку пра нейкага ВАСЮ казаў. Дык такіх жа ВАСЯЎ у Саўміне колькі хочаш. І вы іх добра ведаеце. Адзін ВАСЯ закупляе 10 тысяч бутэлек гарэлкі (гэта былы сакратар Мінскага гаркома Місуна), а другі ВАСЯ падпісвае яму дазвол на гэта і вывозіць у Расію. І такіх прыкладаў, можна сказаць, шмат. Хто зацікаўлены ў гэтым? Так. Зацікаўлены гэтыя ВАСІ, таму што, скарыстоўваючы перакос цэн, яны атрымліваюць ад дзяржаўнага прадпрыемства, калгасаў і саўгасаў па таннай цане прадукцыю і перапраўляюць па больш высокай цане ў Расію.

**Аляксандр Пазюмка:** Паважаныя народныя дэпутаты! У інфармацыі Вячаслава Францавіча сказана, што не ўсе члены ўрада з аднолькавым вынікам працуюць. На мой погляд, гэта заканамерна. У жыцці па-іншаму і быць не можа. У такім выпадку ўраду трэба больш рашуча і адважна вырашаць кадравыя пытанні. А так што ж атрымліваецца? Або жартам, або ўсур'ёз ужо не адзін народны дэпутат, выступаючы раней, спасылаўся на ВАСЮ. Што ВАСЯ вырашае больш, чым вялікая галіна. (Шум у зале).

Не ведаю, як каго, паважаныя дэпутаты, але мяне гэты Вася наводзіць на сумныя думкі. (Шум у зале). Магчыма, нам трэба больш такіх людзей, чым афіцыйных структур...

"Чырвоная змена" раіць спадару Кебічу выкарыстаць на адказных дзяржаўных пасадах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Васіля Шаладонава, Васіля Борыса, Васіля Васільева, Васіля Далгалёва, Васіля Двараніновіча, Васіля Лявонава, Васіля Марозава, Васіля Саковіча, Васіля Сінчыліна, Васіля Чэліка і Васіля Шачака.







На 10-й сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.

•

Фота Сяргея БРУШКО.

# АКАДЭМІЯ "ДЗЯРЖАЎНЫХ ЧАРАДЗЕЯЎ"

**Сёння, каб паспяхова кіраваць эканомікай дзяржавы, трэба быць сама менш чарадзеем... Ці здолее наша адукацыйная сістэма падрыхтаваць такіх "дзяржаўных чарадзеяў" і тым самым забяспечыць нашчадкам шчаслівую, заможную будучыню?**

**"Акадэмія кіравання". Нязвыклая назва для навучальнай установы. Мы прызвычаіліся да сістэмы, пры якой ад кіруючых работнікаў не патрабавалася не толькі акадэмічная, але часам і проста вышэйшая адукацыя. Няўжо часы змяніліся настолькі, што на кіраўнікоў будуць вучыць гэтак жа, як на інжынераў, гісторыкаў, філолагаў? Пра гэта наша гутарка з прарэктарам па навуковай працы Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў РБ А.І.БЯЗЛЮДАВЫМ.**

**— Артур Іосіфавіч, на каго ўсё ж такі вучаць у Акадэміі кіравання — на акадэмікаў ці на кіраўнікоў?**

— У першую чаргу Акадэмія кіравання — установа, якая створана ўрадам як цэнтр па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі менавіта практычных работнікаў, якія непасрэдна займаюцца кіраваннем. Прычым акадэмія — не толькі навучальная ўстанова, але і навукова-даследчы цэнтр па праблемах кіравання. Мы рыхтуем спецыялістаў, прафесіяналаў! Да нас прыходзяць людзі з ужо атрыманай вышэйшай адукацыяй. Тыя, у каго яна гуманітарная, больш здатныя да ўдзелу ў дзяржаўным кіраванні, так званыя "тэхнары" спецыялізуюцца ў асноўным па кіраванню гаспадаркай, эканомікай. Я лічу вельмі важным і карысным, што беларускі ўрад на базе Інстытута перападрыхтоўкі кадраў стварыў Акадэмію кіравання, школу кіраўнікоў новага пакалення, новай генерацыі. Такім чынам, і тэорыя, і практыка ў нас у наяўнасці.

**— Якія асноўныя напрамкі навучання ў акадэміі?**

— Дзяржаўнае кіраўніцтва, гаспадарчае і знешне-эканамічнае. Па гэтых напрамках займаюцца як людзі, што ўжо маюць вопыт, так і студэнты, — з 1 верасня гэтага года ў нас адкрыўся факультэт менеджмента, дзе вучацца звычайныя студэнты. Яны спецыялізуюцца па кіраўніцтву вытворчасцю — прамысловасцю, будаўніцтвам, рыхтуем мы таксама спецыялістаў у галіне аграпрома, і — заўважце — мы першыя на Беларусі, хто стварыў новы напрамак навучання — міжнароднае права.

Наша задача — не стварыць альтэрнатыву іншым структурам, а вырасці ў сур'ёзную, самастойную ўстанову.

**— Артур Іосіфавіч, а як вы адбіраеце кадры будучых кіраўнікоў?**

— Па-першае, студэнты, якія прыйшлі да нас сёлета, вымушаны былі заплаціць грошы. Але быў конкурс! Акрамя гэтага, плануецца адкрыць каледж, дзе кіраўнікі сярэдняга звяна змогуць, так бы мовіць, прывесці ў парадак свае веды, свой вопыт. Можа, акадэмічная адукацыя ім і не патрэбная, але менавіта з гэтага кантынгента мы будзем адбіраць эліту, якая пяройдзе на іншую, вышэйшую прыступку. Міне час, і мы зможам стварыць ліцэі, дзе са школьнага ўзросту юнакі змогуць спасцігнуць асновы кіравання. Нават зараз дзве групы вучняў 9—10-х класаў пад кіраўніцтвам нашых спецыялістаў праходзілі азы эканомікі, камп'ютэрнай сістэмы. Пры нашай акадэміі створаны навукова-даследчы цэнтр на правах інстытута першай катэгорыі. Акрамя таго, пры кожнай кафедры ёсць спецыяльныя лабараторыі, якія выконваюць заказы на даследы па тых ці іншых праблемах. Заказы гэтыя ідуць і ад органаў улады, мы рыхтуем сур'ёзныя сацыялагічныя даследы, і ад экалагічных арганізацый, напрыклад, мы распрацавалі пэўныя матэрыялы для камісіі па справах Чарнобыля.

А наогул у нас праходзіць акадэмічную падрыхтоўку 1,5 тысячы чалавек.

**— На што вы робіце акцэнт у адукацыі: на Беларусь самастойную, альбо на падрыхтоўку, так бы мовіць, касмапалітычных, па-за дзяржаўных кіраўнікоў?**

— Асноўны акцэнт такі: спрыянне дзяржаўнаму станаўленню нашай рэспублікі. Нарэшце, што такое эканоміка? Гэта майстэрства вядзення хатняй гаспадаркі! Што і павінны рабіць кіраўнікі — весці хатнюю гаспадарку, бо што ж такое дзяржава, як не наш з вамі дом? Увогуле, асноўны прынцып, я лічу, такі: рыхтаваць людзей, якія будуць ведаць не тое, як выплыць, а як плыць далей, не як утрымацца на плаву — мы ж не буйкі якія-небудзь, — а як павесці наш карабель наперад, да вызначанай мэты. Мы рыхтуем рулявых. Так, ёсць распрацаваная тэорыя непатапляльнасці. Але як ёй карыстацца? Калі ты не асэнсоўваеш, не бачыш гавані, не ведаеш, куды плыць, — не будзе і спадарожнага ветру. Гэта сцвярджалі яшчэ нашы продкі.

Штурман не толькі пракладвае курс, ён і вядзе карабель. Куды нас вёў Гарбачоў? Ці ведаў ён сам, дзе той порт, куды скіроўваўся напаразбураны карабель дзяржавы?.. Ён быў капітанам, а не штурманам! Вынік вы бачыце... Ведаеце, што значыць слова "кібернетыка"? Яно пайшло ад старажытнай назвы рулявога — "кібернос". Кібернетыка — навука аб кіраванні, аб уздзеянні аднаго чалавека на другога, адной з'явы на другую. Менавіта ЎЗДЗЕЯННЕ, а не нейкае аморфнае узаемадзеянне! Заўсёды хтосьці "ціснe" — не абавязкова фізічна, можна проста пераканаць чалавека, але заўсёды застаюцца аб'екты і суб'екты ўздзеяння.

Вы ніколі не задумваліся, якая розніца паміж нормай і нарматывам? Норма — гэта мера, рацыянальнае ўздзеянне, кіраванне, якое падпарадкоўваецца абсалютным законам. Нарматыў жа — голыя, часам узятыя са столі лічбы. І вось у чым наша бяда — непадрыхтаванасць кіраўнікоў, наведанне імі ні прынцыпаў, ні метадаў кіравання...

Незалежная Беларусь — аб'ектыўная рэальнасць, і наша мэта ў адпаведнасці з гэтай рэальнасцю рыхтаваць спецыялістаў для новай гаспадаркі, новай эканомікі, новай палітыкі.

**— А для гэтага ж трэба не толькі вывучаць эканамічныя дысцыпліны, але ж і ведаць дзяржаўную мову незалежнай Беларусі...**

— Вядома, мы ж беларусы! Рэктарам падпісаны загад, паводле якога ўсе супрацоўнікі акадэміі ў абавязковым парадку павінны вывучыць адну замежную мову і — беларускую. Што канкрэтна — на беларускай мове мы пачынаем весці дакументацыю, пэўную частку перапіскі, і канчатковая мэта, каб усе заняткі ў акадэміі вяліся на беларускай мове.

Паўтараю: мы павінны так з'яднаць навуку і працэс навучання, каб сапраўды мець магчымасць рыхтаваць сучасных кіраўнікоў, лідэраў новага пакалення. Але — наша сістэма ёсць толькі падсістэма іншай, буйнейшай. Усё ўзаемазвязана. Той жа план — цяпер гэта слова для кагосьці ледзьве не лаянка. Але што яно азначае? Баланс, увязку паміж часткамі адзінай сістэмы. Іншая справа, калі столькі гадоў у планаванні кіравала не норма, а нарматыў, што і пазбаўляла наш карабель, карыстаючыся марской тэрміналогіяй, астойлівасці. Пасляваенная Японія дасягнула ўсяго дзякуючы сур'ёзнаму планаванню, разуменню балансу! А тая ж самая рыначная Амерыка? Пачынаючы з 1942 года, федэральная эканоміка і кроку не зробіць без збалансіроўкі! Як вы думаеце, што будзе, калі разбурыць усе сувязі, парушыць баланс у эканоміцы, у палітыцы?

**— Анархія!**

— Ну чаму анархія, той жа бацька Махно ўсё ж планаваў свае баявыя дзенні...

**— Тады назавём гэта хаосам...**

— Справа ў тым, што хаос — таксама сістэма. Толькі з гэтай сістэмы вельмі і вельмі цяжка выйсці, яна не спрыяльная для чалавека, смяротная. Калі вы баіцеся называць план планам — называйце балансам, толькі разумейце яго правільна. Хіба той самы дзяржзаказ спрыяе збалансаванасці эканомікі? Гэта такі ж дубец, такі ж нарматыў, як і раней...

У свеце нічога бессістэмнага няма. Дык якім жа законам павінна падпарадкоўвацца развіццё наогул і развіццё эканомікі, у прыватнасці? Існуе адзіны аб'ектыўны і непарушны закон — закон развіцця прыроды, адпаведна якому развіваецца і грамадства, і эканоміка, і навука, і ўсё, чым жыве чалавек. Але ён стыхійны, гэты закон, і толькі калі яго ўсвядоміш, пазнаеш — шлях наперад адкрыты. Ці чулі вы пра тое, як Мендзялееў пачынаў свае лекцыі? Ён павольна ўсходзіў на трыбуну, абапіраўся на руку і некалькі хвілін угледжваўся ў аўдыторыю. Калі ж студэнты пачыналі здзіўлена пераглядвацца, ён раптам выпрамляўся, ускідваў руку і казаў:"Спадарства, запомніце простую ісціну — калі сасуд награваць зверху, ён ніколі не закіпіць!" У гэтым — яскравы вобраз вечных аб'ектыўных законаў, у веданні якіх наша будучыня.

Гутарку вёў
Алесь ПАЛЫНСКІ.

---

*Сакрэты дзелавога поспеху*

## ПАМЫЛКІ МЕНЕДЖЭРА

Элеанора В.Шварц, Алекс Р.Макензі (ЗША)

1. Дарэмна менеджэры спадзяюцца, што калі пакідаюць дзверы пакоя адчыненымі, то паляпшаюць зносіны з супрацоўнікамі. Наадварот, дасягаюць адмоўных вынікаў: іх увагу часта адцягваюць ад вырашэння найбольш надзённых задач.

2. Часцей за ўсё менеджэры не плануюць сваю дзейнасць, таму што на гэта ім не хапае часу. Яны не разумеюць, што менавіта эфектыўнае планаванне эканоміць час, дазваляе атрымліваць лепшыя вынікі.

3. Менеджэры схільны рэагаваць на спешныя, а не на галоўныя справы. Значыць, яны з пагардай ставяцца да прыярытэтаў і гэтым самым выклікаюць аўралы ў будучым.

4. Калі чакаем тых, хто спазніўся і не пачынаем нараду, то зневажаем тых, хто прыйшоў своечасова, і заахвочваем тых, хто спазніўся. Можа здарыцца так, што ў наступны раз спозняцца ўсе.

5. Менеджэры не схільны перадаваць свае паўнамоцтвы і адказнасць нявопытным падначаленым. Але падначаленыя могуць заслужыць давер кіраўніка, калі будуць мець вопыт, а гэта магчыма толькі пры самастойным выкананні адказных даручэнняў.

6. Менеджэры пакідаюць паперы на сваіх сталах, каб не забыцца пра іх.

Потым паперы або губляюцца, або перастаюць прыцягваць увагу да сябе і перашкаджаюць працы, якую неабходна рабіць у гэты момант.

("Alter EGO").



# ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## Рэпартаж з фестывалю ў Туле

**Гэта назва вядомай тэлегульні. Больш за тое – гэта своеасаблівы рух. Гэта, да таго ж, Міжнародная асацыяцыя клубаў (МАК), існаванне якой значна цікавейшае, без перабольшвання, за тое, што трапляе на тэлеэкраны. Гэта – фэсты, сустрэчы, гульні.**

— Што для вас значыць "Што? Дзе? Калі?" — такое пытанне задавала я многім удзельнікам фэсту ў Туле, які ладзіла МАК. І чула цэлы спектр адказаў.

"Гэта гульня — магчымасць выявіць свае здольнасці, адчуць сябе часткай каманды,спазнаць еднасць", — казалі адны.

"Гэта хобі, гэта як хвароба. Часам падаецца, што гэта сэнс існавання", — адказвалі другія.

"Магчымасць інтэлектуальнага развіцця. Нагода сустрэч з цікавымі людзьмі, захапляльныя імпрэзы. Азарт, урэшце", — дадавалі трэція.

"Свята!" — казалі чацвёртыя.

І кожны па-свойму меў рацыю, бо кастрычніцкі фэст у Туле, на які з'ехаліся ажно каля 60 дарослых і 30 дзіцячых каманд з розных краін былога Саюза, даў магчымасць кожнаму спраўдзіць свае чаканні.

Беларусь тут была прадстаўлена толькі адной дзіцячай камандай — ліцэя № 1 г.Брэста.

"Як ні дзіўна, як гэта ні разыходзіцца з іміджам каманды, але створана яна была па загаду зверху. У студзені ў Брэст даслалі паперу. Гэта быў не рапарт, не даведка, а запрашэнне на ўдзел у гульні "Што? Дзе? Калі?" у Гомелі. Патрабавалася дзіцячая каманда, таму папера трапіла ў райана, а адтуль — у ліцэй", — расказвае Саша Свірыд, адзін з "ігракоў". — Запрашэнне трапіла ў ліцэй раніцай аднаго дня, а каб паспець, неабходна было ехаць ужо вечарам. Адміністрацыя прымае рашэнне: тэрмінова фарміраваць каманду і ехаць".

З таго ўсё і пачалося. Натуральна, Гомель вялікіх поспехаў не прынёс. Але галоўнае — каманда не развалілася. Хлопцы і дзяўчаты гулялі і шмат у чым жылі гульнёй.

І вось — Тула. Першы выхад на "міжнародную арэну". І першы поспех — перамога над камандай г.Ільічоўска (капітан Ульянаў) у гульні "Брэйн-рынг". Важная тут не толькі эрудыцыя, але і хуткасць мыслення. Хто першы "дацяміць", той націсне кнопку.

"Мы прайграем", — хвалявалася перад гульнёй капітан брастаўчан Наташа Камышкала. "Мы перамаглі!" — пасля гульні радасныя дзяўчаты кінуліся на шыю "даросламу" кіраўніку — выкладчыцы ліцэя Іне Панавай. Нават стрыманыя хлопцы ўсміхаліся.

Далей — болей. "Што? Дзе? Калі?" — выхад у фінал. "Брэйн-рынг" — перамога над камандай Тулы. І вынік — 6-е месца сярод 30 дзіцячых каманд, што зусім нядрэнна для пачаткоўцаў.

Ёсць перспектывы ў Сашы, Наташы, Жэні, Аляксандры, Ані...

"На вялікі жаль некаторых, змены вядучага тэлегульні не будзе", — сказаў вядучы Варашылаў, чамусьці дужа непадобны на свой тэлевобраз.

"Глядзіце, гэта адэсіты. Гэта сам Барыс Бурда", — вішчалі ад захаплення "дзеці".

"Яны тут усе вар'яты", — сказаў дарослы ігрок-кіяўлянін. І тут жа без пераходу: "А тут яшчэ было такое цікавае пытанне..." Гэта адбывалася ў гатэлі "Юнацтва" (начлежцы інтэрнацкага тыпу) ужо апоўначы, калі ўкраінцы ды беларусы мімаволі перайшлі на свае мовы, на здзіўленне тулякоў, з поўным узаемаразуменнем.

"А вы чулі песні Бурды? Ён не толькі эрудыт, ён яшчэ і класны бард". "А што, калі зрабіць сумесны канцэрт беларускамоўнага і ўкраінскамоўнага гуртоў у вас і ў нас?" "Сядзелі тут армяне, распавядалі пра тое, як ім ад некаторых дома "дасталося" за публічныя выказванні прыязнасці да азербайджанцаў". "Эх, дрэнна размясцілі — усіх у розных гатэлях па розных кутах горада. Нічога, прыязджайце да нас, у Кіеў, мы наладзім імпрэзу яшчэ лепей". Размовы, кантакты. Можа, гэта тое асноўнае, вышэйшы сэнс гульні?..

Урэшце, "Што нашае жыццё? Гульня!" Можа, і так. І калі на шляху назад ужо добра давала пра сябе ведаць чатырохдзённая стома, чамусьці не спалася. Успаміны, планы, праекты...

Гульня набывае папулярнасць. Дарослыя ігракі рыхтуюць сабе змену. Выдаюцца газеты рэгіянальных клубаў "Што? Дзе? Калі?"

Дарэчы, а ці ведаеце вы, з якой часткі хунь-дунь гатуюць кітайцы суп з хунь-дунь — з рожак, ножак, вушак альбо вочак? Вось і я не ведала да падарожжа ў Тулу. Затое зараз з усёй адказнасцю заяўляю: суп з хунь-дунь гатуецца з вушак хунь-дунь.

**Аля ВОЛІЧ.**




## Навіны ад Гаўдэамуса

### ХАЎРУСАВАЦЦА?

Прырода не цярпіць пустаты... Са знікненнем універсітэцкага камсамола як з'явы "святое месца" намагаюцца заняць іншыя структуры. Так, каля года таму ў БДУ адбыўся ўстаноўчы сход арганізацыі з незвычайнай назвай "Хаўрус беларускамоўных студэнтаў". Пагутарыўшы некалькі гадзін, прыняўшы Статут і абраўшы кіраўніцтва, задаволеныя студэнты разышліся...

Мінуў год. Адзінай рэальнай імпрэзай Хаўруса за ўвесь час была толькі наладжаная на філфаку вечарына аўтарскай песні з нагоды прэзентацыі "Нашай нівы". Новая арганізацыя не зарэгістраваная (у свой час у гарвыканкаме адмовілі, спаслаўшыся на дастатковую колькасць студэнцкіх суполак).

І вось 14 кастрычніка – пашыранае пасяджэнне Рады ХБС. Асноўнае пытанне: як быць з Хаўрусам надалей? Старшыня – Алесь Шавель – студэнтам на сёння не з'яўляецца. Большасць з сяброў Рады склалі з сябе абавязкі, пайшоўшы хто з універсітэта, хто ў іншую суполку ("Выбранецкія шыхты", "Задзіночанне беларускіх студэнтаў", што зарэгістраваныя як рэспубліканскія і паспяхова функцыяніруюць). У наяўнасці – развал. Тым не менш дадзенае пасяджэнне неправамоцнае абвясціць пра роспуск ХБС. Гэтае пытанне павінны вырашыць Вальны Сойм, які яшчэ трэба склікаць.

А пакуль прадстаўнік Задзіночання беларускіх студэнтаў А.Глушко прапанаваў, не марнуючы сілы і час, усім свядомым студэнтам далучыцца да ЗБС, суполку якога мяркуецца стварыць ва універсітэце.

### ЗАДЗІНОЧВАЦЦА?

На наступны ж дзень ва універсітэце адбылася імпрэза з гучнай назвай "Сход студэнтаў". Сабралася на яго ажно каля сарака чалавек. Перад імі выступілі актывісты ЗБС Аляксей Глушко і Зміцер Вайцяховіч:

– Мы як студэнты і як маладыя людзі шмат чым незадаволеныя. Мы прыходзім вучыцца і трапляем у рускамоўнае асяроддзе. Не заўсёды арганізацыя навучальнага працэсу адпавядае нашым жаданням. Студэнцкае жыццё праходзіць сумна, нецікава.

Ёсць патрэба збірацца ў сваім коле, праводзіць святочныя імпрэзы і рабіць яшчэ шмат што. Паасобку гэта зрабіць цяжка. ЗБС утварылася па ўласнай ініцыятыве моладзі, без ціску зверху. Мы выступалі супраць ідэалагічных дысцыплін (гісторыі КПСС, навуковага камунізму), ладзілі вандроўкі, раскопкі, пачалі перакладаць лекцыі на беларускую мову, распрацоўваць навуковую беларускую тэрміналогію.

Зараз распачынаем падрыхтоўку да агульнарэспубліканскай працоўнай канферэнцыі "Нацыянальная вышэйшая школа на Беларусі ў разуменні студэнта". Міністэрства адукацыі падтрымала гэтую ідэю. Мяркуецца правесці канферэнцыю ў пачатку снежня.

Яшчэ на пачатку сходу А.Глушко зазначыў, што прысутных можна падзяліць на 2 катэгорыі: тыя, што маюць шчырае жаданне працаваць, сур'ёзна ставяцца і тыя, хто прыйшоў весела правесці час, пасмяяцца і пасканадаліць. Апошнія, натуральна, не прымусілі доўга чакаць. Сур'ёзныя прамовы пакрысе перайшлі ў абмеркаванне дробязяў і ў спрэчкі "аб патрэбнасці тусоўкі свядомаму студэнту". Гучалі прамовы кшталту праекта заснавання "Арганізацыі аматараў стварэння арганізацый". Добрым пераходам да перапынку стала палымяная прамова нейкага Сяргея Градоўкіна, які прадставіўся віцэ-прэзідэнтам Фонду Пінатэта. "У кулуарах" мне не ўдалося пазбегнуць узяцця экспрэс-інтэрв'ю, у якім С.Градоўкін распавёў:

– Фонд Пінатэта – наваствораны грамадскі фонд. Ягоная мэта – Беларусь без сацыялізму. Ва ўсіх формах сацыялізму закладзена фізічная, псіхічная і інтэлектуальная дэградацыя асобы і грамадства ўвогуле. Але сацыялізм мае глыбокія карані ў падсвядомасці чалавека як біялагічнага віду. Гэтая ідэя выяўляецца ў адвечнай форме – імкненні двух сабрацца разам, каб таптаць нагамі трэцяга. Мы супраць пераваротаў, мы за пераварот у свядомасці. Будзем дзейнічаць па старых масонскіх прынцыпах.

Пасля перапынку самыя цярплівыя засталіся ў зале, каб высветліць, хто ж вінаваты, хто сарваў сход. А мне думалася: не ўсё яшчэ згублена, калі нашае студэнцтва ўмее і працаваць (ЗБС), і жартаваць ("Фонд Пінатэта"). І гэта добра, што студэнты ўмеюць збірацца. І разбірацца.

**Вольны назіральнік Воля АКУЛІЧ.**

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

# ДЗЯДЫ

Ад турмы ды ад сумы не заракайся, ад смерці не бяжы.

*(З народнага).*

Пасля гнятлівага, бо непараворга завірушша раптам прыродзе палягчэла. Субота выдалася цёплая, сонечная, балазе на вуліцы яшчэ аддаваў апошнія распараджэнні кастрычнік. Уходаўшыся ля печы ды настаўляўшы повен стол усялякай стравы – была куцця, прыкрытая чыстым абрусам, сыта мядовая, стаяў юшнік з крыві і сытыя, нібы падсвінакі, аладкі ляніва разлегліся на талерцы – прыгняздзіўся я на лаве, вочы закрыў стамлёныя і як закляцце загукаў:

*Святыя дзяды, просім вас,*
*Хадзіце да нас, ляціце да нас*
*Есці і піці, што Бог даў,*
*Што я для вас ахвяраваў.*
*Святыя дзяды, просіма вас,*
*Хадзіце, ляціце да нас.*

Хвіліну стаяла ціхота, ажнуль зарыпелі масніцы, застагнала ў коміне, загойдала, нібы скразняком, фіранку, адчуў, як нябачныя лёгкія цені спрытна рассаджваюцца вокал стала. Толькі сабраўся лыжкаю падчэрпнуць куцці – у дзверы пастукалі...

– Заходзьце, не зачынена! – раздражнёна гукнуў я і сам сабе мацюкнуўся: якога ліха прыперла нейкую матэрыяльную халеру да майго духоўнага стала?

Незнаёмы нясмела тупаў на парозе і зрэдчас, відаць, па прывычцы, клацаў нізка адвіслай сківіцай.

– Так і ёсць, спазніўся, – зусім разгубіўся ён, акінуўшы вокам стол, – косці, разумееш, не тыя, ён вышчарыўся (усё, што засталося ад колішняй усмешкі) і яшчэ болей зніякавеў.

– Нябожчык? – здагадаўся я адразу, успомніўшы, што на Дзяды клічуць да стала не толькі родзічаў, але і тых, каму няма да каго прыйсці. – Слухай, але чаму... чаму ты матэрыяльны?

Ён прамаўчаў. Замест таго нясмела падсеў на краёчак лавы, аддыхаўся.

– Слотна, – паспачуваў я, каб неяк зачапіцца за гаворку. – Дый чаравічкі ў цябе – не пазайздросціш.

– Гуманітарнай не даюць. На дзве эры – пара, як і палажана.

– Дарожку размыла, цяжка нябо да кладоў дабірацца. Ці таксама зрабілі бясплатны праезд у межах адміністрацыйнай адзінкі?

– Дарогі няма, – згадзіўся ён, – начальства ж не ездзіць, во і не падсыпае. Улетку хоць Божанька сцяжынку вымасціць, наўпрасцяк, па кукурузе. А зараз... прывязуць, укінуць у яму – ляжым, як на востраве.

– Та-ак, начальству няма часу. Сто гадоў пражыць думае... Слухай, а помніш, неяк мода пайшла Дні памяці ладзіць? Некаму наверсе засвярбела і спусцілі дырэктыву.

– Няго ж, бывала, прывязуць упаўнаважанага з раёна, пару вянкоў прыхопяць для прыліку, збяруць народ і – пагналі. Знойдуць на кладах які талкавейшы курганок, каб не надта ў быльнягу, загадзя пясочкам патрусяць... Стануць і давай прамовы чытаць – грамадзянская паніхіда. Мы, нябожчыкі, смяёмся: нябо не адпускаюць упаўнаважанага па могілках шастаць. Адыдзешся ад паказальнае магілкі, раптам заблудзішся ў хмызняку. Там жа ў нас глушэча, хмызняк парос, як у балоце, нават страшнавата. А ўпаўнаважаны і сам ад машыны не надта кідаецца, холадна ж было, вясна, сабе думае, хутчэй бы гару з плеч ды ў цёплае, ды чарку дармавую на халяву хапіць.

– Акурат перад радаўніцай ладзілі, каб, значыцца, супроцьпаставіць іхнюю савецкую традыцыю народнаму цемрашальству. А народ, ён і прамовы сходзіць паслухае і назаўтра яйкі чырвоныя валачэ. Універсальны народ наш, табе скажу.

– Універсальны... Колькі разоў тую сцежку, што да могілак наўпрасцяк вяла, па полі, баронамі заскародзяць, плугамі перакапаюць. Глядзіш, ізноў уецца, танюткая, кволая. Гэта ж нейкаму начальніку, мабыць, добрых гузоў каштавала падарожжа на клады нашы, далася ў знакі паніхіда, загадаў гравійку высыпаць, ды не там, дзе людзі ходзяць, а ўкругавую, праз суседнюю вёску. Ну, а бабулькам далёка на той свет хадзіць...

– На той свет – праз Амерыку... Ды ты еш, еш, каўбаска во, гурочкі салёненькія, смачныя, свае. Сёлета гуркі добрыя ўрадзілі, дарма што качагарыла цэлае лета, – пачаў я падахвочваць, убачыўшы, што госць мой нават не крануўся талеркі. – Мо і чарку возьмеш? Пакуль яшчэ даюць па талонах, хоць і дарагую.

– Тваё здароўечка... – ён прыгубіў шклянку. Празрыстая, як сьлязіна, вадкасць схавалася за адвіслай сківіцай, неяк ненатуральна булькнула і, да майго жаху, вылілася на падлогу. Толькі цяпер я заўважыў, што ў госця майго... не было куды есці. Апрача чэрапа пад капелюшом, спарахнелых чаравікаў, якія і праўда, відаць, дажывалі другую эру, ды чорнага балахона, што досыць акуратна прыкрываў голы шкілет, быў яшчэ хіба голас, спакойны, разважлівы, упэўнены. Па ўсім відаць было інтэлігента.

Госць, відаць, убачыў маю збянтэжанасць і паспяшаўся загаварыць:

– Няго ж, усё цяпер дарагое, – уздыхнуў ён, нібы нічога і не здарылася. – Вянок на магілку купіць, дальбог, за такія грошы даўней карову надыбаў бы.

– А помніш, як сельсаветчыкі мудрылі, – ачомаўся я, усміхнуўся, – прынясуць да помніка салдацкага на Дзень Перамогі вянок, паставяць. Дзеткі вершы пачытаюць, песні паспяваюць. Усё як трэба. А назаўтра ціхенька схопіць вянок ды на склад, да наступнае гадавіны. Стужкі памяняюць толькі. Эканоміка павінна быць эканомнай.

– А магілку на склад не схаваеш. І зарастаюць, і не патрэбныя нікому. Хоць ты нам, нябожчыкам, на самафінансаванне пераходзь ды ў камерцыю грошы зарабляць кідайся. Эх, ну й жыццё настала!

– Ды ў труне я бачыў жыццё такое! – вырвалася ў мяне, сам не чакаў.

– Э, браток, у труне не бачыў, паспееш яшчэ, – нейкім не сваім, ледзяным і надрыўным голасам прасіпеў нябожчык і глынуў другую чарку. Вадкасць ізноў вылілася на падлогу, ды я не зважаў.

– Усе паспеем.

– Пара мне, – раптам ён заспяшаўся, ветліва зняў капялюш, пачаў дзякаваць, а я не чуў, пазіраў, як смешна клацае яго сківіца, і нават не заўважыў, калі ён знік, нават не ляпнуў дзвярыма...

Ачомаўшыся, убачыў, як заварушыліся за сталом душы маіх продкаў, нібы чакалі каманды, убачыў і ўспомніў, што я цяпер гаспадар. Хуценька загаварыў, нібы маліўся:

*Святыя дзяды зляталісь сюды,*
*Есці — пад'елі, піць — напіліся,*
*Чэсць і слава вам!*
*Цяпер скажыце нам, чаго вам трэба?*
*А лепей ляціце ў неба!*
*А кыш, а кыш, а кыш!*

Загаварыў і... прачнуўся. Адчынілася фортка, і гарэзлівы вецер, уварваўшыся ў пакой, загуляўся з фіранкаю. Вецер памацнеў і, мабыць, нарве непагадзь. Нездарма прыходзіў нябожчык. Заўтра – Дзяды. Свята... Спрадвеку так называлі нябожчыкаў, усіх, бо не было розніцы, ці пайшло на той свет немаўля, якое і вочы раскрыць не паспела, ці паўстаў перад Богам юнак, узяўшы за жонку сырую зямельку, ці сівенькі дзядок ціха заснуў на прызбе назаўсёды. Усе яны – дзяды нашы, бо, мабыць, на тым свеце жывуць багата мудрэй, чымся мы тут. Так, яны жывуць, і жыць будуць датуль, пакуль мы іх помнім. Вось толькі нам, жывым, не хапае іншы раз літасці ды спагады да блізкага і бракуе пачуцця меры. І сквапныя мы, і зайздросныя, і падзяліць не можам славы, грошай, зямелькі, нібы паверылі ў сваю неўміручасць, нібы забыліся, што Там не патрэбны будуць ні слава, ні багацце, Там усе роўнымі будуць, бо аршына зямелькі кожнаму хопіць. Дык няхай будзе той дзень, калі, спіхнуўшы сякую-такую работу па гаспадарцы, пазавём за стол продкаў. І будзе гарэлка, і закусь, і надзея, і ўспамін – жыццё. Няхай будуць Дзяды!

Уладзімір МІХНО.

# БЕЛАРУСКІ КА




1/19 — Каталіцкае свята Усіх Святых. Накладаецца на Асяніны — памінальны дзень перад днём св.Зміцера. У гэты дзень за стол запрашалі ўсіх продкаў, якія жылі ў гэтай хаце, але памерлі. Клалі на стол столькі ж лыжак.

2/20 — Працяг памінальных дзён у католікаў.

4/22 — Праваслаўнае свята Казанскай Божай Маці, абаронцы гарадоў ад чужаземнай навалы.

8/26 — Дзень святога Дзмітрыя (Зміцера). Існавала павер'е, быццам дзеўка, што не выйшла замуж да гэтага дня, ужо ў гэтым годзе і не выйдзе. У гэты ж дзень у большасці рэгіёнаў Беларусі — Дзяды.

9/27 — Дзень святога Тадора. Каталіцкі прысвятак. Да гэтага дня павінны быў быць сабраны ўвесь ураджай.

10/28 — Дзень св.Параскевы Пятніцкай. Забаранялася прасці і ткаць. У гэтай святой нявесты, якія не атрымалі жаніхоў у гэтым годзе, прасілі дапамагчы выйсці замуж у наступным.

11/29 — Дзень ушанавання св.Анастасія (у праваслаўных) і св.Марціна (у католікаў). Першы лічыўся апекуном тых, хто разводзіў авечак, другі — млынароў.

12/30 — Дзень св.Артошкі. Пачыналі прасці.

14/1 — Дзень св. Кузьмы і Дзям'яна. Свята шаўцоў, кавалёў і земляробаў.

20/7 — Міхайлаўскія Дзяды. Спраўляюцца ў пятніцу перад святам у гонар святога Міхаіла.

21/8 — Дзень св. Міхаіла. У гэты дзень унукі павінны былі наведаць бабулек.

22/9 — Дзень св.Матроны. Лічылася, што, калі ў гэты дзень іней на дрэвах — хутка маразы, а калі туман — будзе адліга.

24/11 — Дзень св. Фёдара. "Хведаравы вятры галоднымі ваўкамі скуголяць".

25/12 — Дзень каталіцкай святой Катарыны і праваслаўнага святога Іаана Міласцівага. Лічылася, што калі ў гэты дзень будзе дождж альбо снег, то адлігі зацягнуцца да Грамніц.

27/14 — Дзень святога Юсцініяна. Сяляне лічылі яго апекуном пладнасці і дзяцінства.

30/17 — Дзень св. Андрэя. Дзень варажбы дзяўчат пра жаніхоў.

# ІМГНЕННЕ ВЕЧНАСЦІ

## Гістарычнае апавяданне

Дождж. Утульна, запаліўшы свечку, слухаць стуканне кропель у цемную шыбу, адчуваць шапаценне мокрай лістоты за акном. Як яна любіць гэтыя начныя дажджы! У дзяцінстве старая нянька такімі вось вечарамі расказвала ёй казку пра цудоўнага прынца, які згубіў сваю прынцэсу і ад гораператварыўся ў дождж. Гэта яго слёзы стукаюць цяпер у шыбы і просяць вярнуць каханую. Казка. Прыгожая, як само дзяцінства. Як далёка яно адышло! Цяпер яна ўжо паненка, а хутка будзе паннай, князёўна Кобрынская Ганна. Вельмі хутка. Заўтра.

Ужо прыбылі на свята галоўныя госці. Вялікі князь Літоўскі, польскі кароль Казімір меў ласку прыехаць на вяселле Ганны.

Сын вялікага Ягайлы, ён усюды прывык адчуваць сябе гаспадаром. Невысокі, каржакаваты, з пышнымі вусамі, мясістым носам і пільнымі вачамі, ён і ў Кобрынскім замку паводзіў сябе ўпэўнена. Ганна ўспомніла мінулы вечар. Яны сядзелі ў гасцёўні невялікім кружком – толькі самыя блізкія. Якія брыльянты, якое футра падарыў ёй пан Казімір! Праўда, напрыканцы мужчыны загаварылі пра рэлігію. Казімір настойваў на аб'яднанні Заходняй і Усходняй цэркваў, праціўнікі уніі не згаджаліся з ім. Успыхнула спрэчка. Ганна выйшла, а госці ў зале яшчэ доўга шумелі. Яна ўспомніла, якім шалёным бляскам гарэлі вочы яе бацькі, жаніха і яшчэ двух магнатаў, Івана Гальшанскага і Слуцкага, як сціскаліся іх кулакі пры гэткіх размовах. Ганна таксама была праваслаўнай, і змова з католікамі здавалася ёй справай ганебнай, але ж навошта такая апантанасць? Ёй хацелася, каб людзі былі больш добрымі адзін да аднаго. Каб у каханні знаходзілі шчасце. Бо каханнем жыла яна ўвесь час пасля першай сустрэчы сваёй з будучым жаніхом, Фёдарам Бельскім. Былі сустрэчы, яе чаканне, яго прыезды і, нарэшце, замовіны. Усяго праз тры месяцы. Забыта ўсё: шматлікія кавалеры, пышныя ўборы і нават верны Тадэвуш, які так пяшчотна прызнаваўся ёй у каханні. Яе хвалявалі вялікія рукі і шаршавыя моцныя вусны Фёдара...

* * *

Тадэвуш блукаў па замку з адным жаданнем: схавацца ад яго перадсвяточнай мітусні, не бачыць нічога, забыцца – і не мог. Не мог ён і ўцячы адсюль, паехаць дадому – гэта было вышэй за яго, ён адчуваў, што павінен выпіць кубак горычы да дна, вытрымаць, выпаліць у сэрцы ўсе карані, і таму блукаў то задыхаючыся, то амаль страчваючы прытомнасць ад хуткіх крокаў або звонкага смеху Ганны. Нарэшце, зусім абяссілены, ён заснуў у нейкім пакойчыку за цёмнай парцьерай.

Ён прачнуўся нібы ад моцнага штуршка. І раптоўна стаў сведкам нягучнай размовы:

– Ціштэй, пане Іван, каб не зазірнуў хто сюды. Усё на месцы?

– Так. Іх тут ніхто не знойдзе. Вось толькі ці ўдасца нам дастаць гэтыя стрэльбы ў час?

– Будзем дзейнічаць, як дамаўляліся. Але першая спроба не ў замку, а на паляванні. На другі дзень пасля вянчання ўсе едуць у пушчу на зубра, там мы яго і падпільнуем, калі застанецца адзін.

– А калі не застанецца? Як тады, пан Слуцкі?

– Дружа, разоў дзесяць я бачыў Казіміра на ловах. Ён гоніць так, што губляе світу амаль адразу. Ну, а калі не ўдасца там, атруцім у замку, як рудую мыш.

– Ці не паспрабаваць спачатку іншы спосаб?

– На вянчальным абедзе? Не. Фёдар наш, але ён кахае яе. Трэба зразумець, і Бельскі дапаможа нам. Так ці інакш, але мы раздавім гэту гадзіну, адступніка веры, няшчасце нашай зямлі...

Калі крокі сціхлі, Тадэвуш вобмацкам пачаў шукаць выйсця. Сэрца шалёна калацілася, у скронях пульсавала адна думка: "Вось калі я адпомшчу! За ўсё! За маю Ганну! Не дам, не пушчу яе за бандыта!".

Праз некалькі хвілін ён ужо стукаў у пакой вялікага князя...

* * *

Твар нявесты быў бледным ад хвалявання. Толькі цямнелі вочы, пунсавелі вусны, ды валасы чорнымі карункамі ўпрыгожвалі твар. Сэрца ў грудзях замірала ад прадчування шчасця.

– Ойча наш, той, што на нябёсах...

У храме пахне ладанам і кветкамі. Урачыста гучаць словы малітвы. Строгімі, чужымі выглядаюць лікі святых. Ад незнаёмага пачуцця сціскае ў грудзях, набягаюць слёзы. "Вялікі Божа, дзякуй табе за яго, дзякуй за мужа, клянуся, я буду кахаць яго ўсё жыццё, я буду добрай жонкай. З ім забудзецца смутак, і боль, і страх".

Што з табой, Ганна?

...Думкі падобны на рваныя хмары. Яны гоняцца адна за адной, і калі збяруцца ў адно, грымне гром...

– Ойча наш, той, што на нябёсах...

* * *

Д'ябал у пекле падрыхтаваў вогнішча для грэшнай душы Тадэвуша, якога рэўнасць прымусіла выдаць імя свайго саперніка яго ворагу. Кароль польскі Казімір даведаўся пра змову мяцежных васалаў Слуцкага, Гальшанскага і Бельскага. Ён прагнуў іх крыві. Кажуць, нават Іуда, што выдаў Хрыста, зразумеўшы свой грэх, спалохаўся. Тадэвуша ліхаманіла. Жах змяніўся адчаем, вочы то суха блішчэлі, то напаўняліся слязамі. Усю ноч ён правёў, прытуліўшыся да дрэва ў чорным парку. З лісця падалі кроплі, ён вымак і замёрз, але не мог сысці з месца. Бо гэта ён наклікаў бяду на Кобрынскі замак! Што будзе з Ганнай, калі яе мужу адсякуць галаву? Ці можна так помсціць ёй за сваё каханне?

...Ён замкнуў дзверы свайго пакоя і пачаў пісаць да Ганны ліст, у якім папярэджваў аб сваёй здрадзе. Ён вырашыў аддаць яго да раніцы, але падысці да яе непрыкметна аказалася немагчыма – усюды цікавалі Казіміравы слугі. Нарэшце, ён падсунуў канверт пад дзверы яе спальні з надзеяй, што нявеста зазірне сюды перад вянчаннем, а потым паспее папярэдзіць жаніха. Але Ганна ўвайшла ў былую спальню ўжо княгіняй Бельскай.

* * *

– Родная мая, любая, каханая... Я чакаў цябе... Ласкавая мая... Паверыць не мог, што будзеш маёю. Я буду кахаць цябе ўсе жыццё, шчасце маё. Мне так добра з табой...

Фёдар цалаваў яе вочы, вусны, плечы.

Ганна плакала. Такой шчаслівай яна не была яшчэ ніколі. Яна аддала каханаму ўсё, і ўзамен атрымала непараўнальна больш. Ганна праводзіла тонкімі пальцамі па растрапаных яго валасах, па густых бровах і раптам, прыўзняўшыся, моцна прыціснула яго вусны да сваіх. Няхай гэта кароткае імгненне стане вечнасцю. І гэта ноч, і ўсё іх жыццё растворыцца ў ім. А пасля, расплюшчыўшы вочы, можна запаліць свечку...

Яна недаравальна позна ўспомніла пра ліст. Магчыма, патануўшы ва ўласных пачуццях, яна не да канца ўяўляла, чым можа скончыцца ўсё.

Але Фёдар усё ж атрымаў магчымасць у тую ноч прачытаць напісанае Тадэвушам...

Ніколі не ведала Ганна, што яе Фёдар можа быць такім бледным. Ён усё растлумачыў ёй... Канверт з раскаяннем Тадэвуша павольна ўпаў на пол... Воск з патрывожанай свечкі запляміў ільняную бялізну ложка...

– Фёдар... Як жа ты мог?.. Навошта?..

Укленчыўшы перад ложкам, ён абняў калені каханай:

– Даруй...

* * *

Сонца іскрыстымі дыяментамі пералівалася ў кропельках расы, пранізвала маладую лістоту дрэў, ласкава прыгравала, растапляючы начную імглу. Было яшчэ трохі халаднавата, але ясна, і дзень абяцаў парадаваць веснавым надвор'ем. На ўскраіне лесу з самага ранку гудзеў узбуджаны натоўп. Чакалі галоўнага героя палявання – вялікага князя Казіміра са світай. Чароўнай Дзіянай будзе, зразумела, маладая княгіня. А яе муж – правай рукой яснавяльможнага паляўнічага.

Для Казіміра няма лепшага занятку, чым ловы. Злыя языкі плятуць, што гэтай забаве ён аддае перавагу нават перад дзяржаўнымі справамі. Нездарма ж лічыцца такім удалым лаўцом. Напэўна, і сёння яму пашанцуе, і гаспадар Белавежы, зубр, будзе ляжаць ля ног гаспадара Рэчы Паспалітай.

Ганне было холадна. Можа, таму яе не кранала ўзбуджанасць іншых? Яна зранку не бачыла мужа. Фёдар з князем і яго світай паскакалі наперад, жанчыны трымаліся ў аддаленасці. На бледны твар і маўклівасць Ганны ніхто не звяртаў асаблівай увагі, прыпісваючы іх бяссоннай шлюбнай ночы.

Сапраўды, маладым мужу і жонцы было не да сну. Фёдар раздумваў, як знайсці магчымасць папярэдзіць пра здраду сяброў. Ганна плакала.

Хвіліны цягнуліся бясконца. Яна не ведала, ці ўдаўся Фёдару яго план. Недзе ў пушчы трубіў рог, чуліся крыкі, стрэлы. Кожны з іх прымушаў Ганну ўздрыгваць. І словы малітвы застывалі на вуснах...

Ранішняя весялосць гасцей трохі спала, калі з лесу данесліся моцныя воклічы радасці. Гэта значыла, што зубр забіты і паляванне скончана. Пачынаецца свята. Звера прыцягнуць на паляну і той, хто забіў, паднясе яго багіні палявання Дзіяне. І вось ужо паміж дрэў паказаліся першыя паляўнічыя. Яны хваляцца здабычай. Чуецца смех, гоман. Людзей усё прыбаўляецца. Нарэшце, выходзіць і сам Казімір у акружэнні вернай світы. За ім цягнуць вялізнага касматага зубра. Зусім нядаўна ён яшчэ дыхаў, страшна хрыпеў, наводзячы жах. Ён і забіты мае грозны выгляд. Ганна з павагай глядзела на звера. Яна выйшла насустрач князю і, стаўшы адной нагой на звярыную галаву, сказала некалькі віншавальных слоў. Казімір пакланіўся і, падаўшы руку, павёў яе да свайго шатра.

– Ты нешта сёння занадта бледная, мая дзяўчынка. Не выспалася? І Фёдар з раніцы зусім сур'ёзны.

– А дзе ён? – пытанне вырвалася само сабой. – Чаму не прыехаў з вамі, вялікі князь?

– Не ведаю. Ён вырваўся ўперад папярэдзіць вас. Ты не бачыла яго? – погляд у польскага караля хітры, выпрабоўваючы.

Сэрца дробным каменьчыкам пакацілася некуды ўніз, далёка-далёка. Няўжо ён ужо схоплены? Ні Слуцкага, ні Гальшанскага няма. Мабыць, іх забралі ўжо людзі Казіміра, каб потым судзіць і пакараць смерцю? Вялікі Божа, нельга вытрымаць нават думкі аб гэтым!

– Што з табой, княгіня Ганна? Табе дрэнна?

Вочы Казіміра. Куды схавацца ад гэтага напружанага падазронага погляду?

І раптам Ганна ўбачыла мужа. Фёдар стаяў за бліжэйшымі дрэвамі і глядзеў на яе. Жывы. Адчай надаў ёй рашучасці:

– Прабачце, пане Казімір, мне сапраўды нездаровіцца. Я вымушана ненадоўга пакінуць вас. З вашага дазволу.

Ад'ехаўшы далей у пушчу, яна перасела да Фёдара на каня і цяпер слухала, сцішыўшыся, як стукае сэрца каханага.

– Не маўчы, Фёдар. Скажы мне, што адбываецца. Чаму ты не падышоў да мяне?

– Здарылася непапраўнае. Я не паспеў папярэдзіць сяброў, яны ўзялі зброю яшчэ ўчора. А





*Міфалогія*

# МОКАШ

Штогод прыкладна 7 кастрычніка ў прыродзе, якая ўжо рыхтуецца да зімовага сну, раптам адбываецца нечаканае пацяпленне. У народзе такі перыяд называюць бабіным летам. Язычніцкі ж каляндар прысвячаў гэтыя дні Мокашы (Макошы) — таямнічай багіні з тонкімі доўгімі пальцамі, доўгімі серабрыстымі валасамі і вачамі колеру астылага попелу. Гэта адна з самых старажытных багінь усходнеславянскага пантэона. Яна старая, як сам свет, і з'яўляецца ўладаркай часу. Цікава, што бясконцасць часу асацыіравалася ў старажытных нашых продкаў з жаночай цярплівасцю і здольнасцю чакаць. Магчыма, менавіта з-за гэтага час у іх міфалогіі атрымаў жаночы твар.

Першапачаткова Мокаш з'яўлялася не толькі багіняй часу, але і прамаці. Але потым, верагодна, бачачы празмерна вялікую несуадноснасць паміж гэтымі функцыямі, людзі даверылі частку іх багіні Калядзе, а Мокашы застаўся толькі час і апякунства над старымі мудрымі жанчынамі. Мокаш заахвочвала тых, хто займаўся шэрагам жаночых рамёстваў. Пры знаёмстве з міфалогіяй мы бачым, што ўся працоўная дзейнасць, якая звязана з ніткай, — прадзенне, ткацтва, вышыванне і іншыя, — знаходзілася пад апекай менавіта гэтай багіні. У тых, хто пакланяўся ёй, заўжды атрымліваліся самыя тонкія палотны, самыя прыгожыя ўзоры, самыя цёплыя панчохі.

Наогул жа верх дасканаласці з пункту гледжання Мокашы — павуцінне. Ці не таму да гэтых часоў найлепшай пахвалой для майстрыхі, якая займаецца пляценнем, з'яўляецца параўнанне яе ўзору з мудрагелістым узорам павука. А для прадзільшчыц і ткачых павуцінне — эталон тонкасці ніткі.

Якія ж адносіны маюць павукі да багіні часу? Паводле меркавання старажытных славян, — прамое. Бясконцая нітка-павуцінка, якую выцягвае сантыметр за сантыметрам з сябе павук, нагадвае нітку часу. Бязважкасць, моцнасць і адначасова крохкасць яе, ці не мае падабенства з ніткай лёсу або ніткай жыцця чалавека? Ніткай, якая здаецца такой моцнай і якую так лёгка парваць?

Сама Мокаш нават з'яўляецца людзям у атачэнні павукоў. Яны заўсёды былі яе вестунамі. Да гэтых часоў існуе павер'е, быццам павучок, які зачапіўся за чалавека сваёй лятучай павуцінкай, прыносіць шчасце. Гэтае павер'е з'яўляецца водгаласам таго культу Мокашы, які бытаваў на нашай зямлі ў старадаўнія часы.

Нашы продкі былі ўпэўнены, што Мокаш кожную восень пачынае ткаць з цудоўных нітак снегавое пакрывала для зямлі, якое дапаможа ёй перажыць халады, маразы, завірухі. У час гэтай працы ад велічэзнага калаўрота багіні адрываюцца маленькія нітачкі. Яны разлятаюцца ў розныя бакі. Людзі ж лічаць іх павуцінкамі. І, сапраўды, у час бабінага лета шмат іх блукае па паветры.

Доўгія пальцы багіні Мокашы нясуць забыццё і спакой тым, да каго дакрануцца. Часцей за ўсё гэта даводзіцца адчуць добрым працавітым жанчынам, якім воляй лёсу наканавана жыць у чаканні сваіх каханых, мужоў і сыноў. Доўгія ночы імкнуцца жанчыны гэтыя правесці за цяжкай працай. І звіняць пруткі, сную іголка, гудзіць калаўрот. Падыдзе ціхенька да жанчыны Мокаш. І спачатку дакранецца да пражы альбо палатна — адбеліцца льнянов палатно, пасерабрыцца пража. Потым багіня подыхам сваім высушыць слёзы на шчоках работніцы і пагладзіць яе па галаве. Літасцівая багіня часу прынясе той, што чакае, спакой і ўпэўненасць. Але валасы жанчыны пасля такога дотыку назаўсёды застануцца серабрыста-белымі, як выбеленая Мокашшу пража. Успомніце, як непрыкметна і хутка сівеюць нашы ўласныя маці.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
Мікола БАГАДЗЯЖ.



сення іх схапілі Казіміравы слугі. Разумееш, я бачыў, як іх скруцілі, і нічым не мог дапамагчы. Цяпер мая чарга, і я хацеў развітацца з табой.

Ганна не магла плакаць. Яна стагнала, як абяссілены паранены звер:

– Ты павінен уцячы. Паехаць зараз жа...

– Я не магу. Мае сябры...

– Не гавары глупства! Цяпер ты ім нічым не дапаможаш, толькі сябе загубіш. Ну, я прашу цябе, каханы мой, любы, родны мой, я не змагу жыць, калі ты загінеш. Скачы ў Маскву, прабірайся лясамі, і цябе не знойдуць. А я што-небудзь прыдумаю, каб цябе не шукалі да раніцы.

– Не, я не магу пакінуць цябе ў гэтым логаве дзікага звера. Паедзем са мной, Ганна, і тады я буду спакойны.

– Не, каханы. Удваіх мы не зможам рухацца так хутка, а адзін ты, напэўна, уратуешся. Акрамя таго, знікненне дваіх хутчэй прыкмецяць і пусцяць пагоню.

– Ганна, а калі яны схопяць цябе?

– Не хвалюйся, са мной нічога не здарыцца. Я на каленях буду маліць аб табе Казіміра. А ты дасі звестку, калі міне небяспека. Прашу, паслухай мяне...

– Родная мая, любая... Шчасце маё... Даруй мне, калі зможаш. Ты для мяне даражэй за жыццё. Чаму Бог даў нам так мала шчасця?

– Бывай, – яна абняла мужа, і вусны іх зліліся ў доўгім пацалунку. Тады яшчэ яны не ведалі, што ён стане іх апошнім пацалункам. Мінулай ноччу ў імгненне пяшчоты і кахання Ганна загадала, каб яно цягнулася бясконца. Бог або д'ябал наканаваў ёй другі лёс, дзе шчаслівая вечнасць збеглася ў адно кароткае імгненне, гарачае і балючае імгненне першай і апошняй ночы кахання.

* * *

Фёдар Бельскі дабраўся да Масквы, дзе яго прыняў і даў уладанні цар Іван III. А праз тры месяцы ў Вільні судзілі двух злачынцаў, якія зрабілі замах на жыццё караля Рэчы Паспалітай. На галоўнай плошчы пры вялізным натоўпе кат адсек ім галовы. Пры гэтым ля Казіміра ўвесь час знаходзілася маладая дама ў чорным. Яна некалькі разоў страчвала прытомнасць, але кароль так і не дазволіў ёй паехаць дадому. Пагаворвалі, што гэта жонка трэцяга змоўніка, якому ўдалося ўцячы, і што Казімір трымае яе як заложніцу, спрабуючы такім чынам заманіць ворага назад. Ён так і не выпусціў княгіню да мужа.

Доўгіх дваццаць гадоў Бельскі чакаў яе. З часам памяць страціла многае, ясна помніўся толькі яе твар і Кобрынскі замак у ранішніх промнях. Ён так і не дачакаўся сваёй Ганны. А некалькі імгненняў, што ўсё жыццё палілі душу гарачымі вугельчыкамі, нарэшце сталі пякучымі льдзінкамі, і часам растаюць, адбіраючы блакіт вачэй, дабаўляючы срэбра валасам. А можа, гэта красавіцкі вецер пацалаваў маладое лісце і пырснуў у твар начным дажджом?

Наталля ВАСЮК.

*"Раскапана" ў архіве*

# МАРКС АБ ВІЦЕБСКУ 1820-1840 ГГ.

Побыт гэтага невядомага чалавека ў славутым горадзе ніяк не звязаны ні з эміграцыяй, ні з падрыхтоўкай матэрыялаў аб генезісе капіталізму менавіта ў Беларусі. Свае нататкі, напісаныя ў 1888 г., М.Маркс назваў "Запіскі старога". Зараз яны знаходзяцца ў зборы рукапісаў Львоўскай бібліятэкі імя Стэфаніка. Сведчанні аўтара сціплыя, але занадта красамоўныя сваёй трапнасцю і выразнасцю.

Як і належыць, ён пачынае свае ўспаміны з "галавы", якая заўсёды і ўсюды гніе менавіта першай. Наш Маркс спавядае, што тутэйшыя "вышэйшыя чыны былі рускія, прыехаўшыя на службу і пасля звычайна перасоўваемыя ў іншыя месцы". Дробных чыноўнікаў тут называлі "кручкамі". З-за агульнай пагарды ніводзін прыстойны чалавек не адважваўся заступіць пісцом ні ў паліцэйскую ўправу, ні ў ніжэйшы земскі суд. "У паліцмайстра і спраўніка таму пад камандай былі адчайныя прапойцы і шэльмы". Начальнікі канцылярый усю гэтую падначаленую "пісцовую пачвару" прымушалі працаваць пад вартай: здымалі з іх боты і прывязвалі за ногі да сталоў. "Жыхары, каб пазбавіцца ад іх дакучлівых дамаганняў, білі іх пры кожнай магчымасці няшчадна, адкручваючыся потым ад адказнасці міравой здзелкай не даражэй штофа гарэлкі".

Не танней было жыццё сялян. Сапраўдны вар'ят, памешчык Гурко строіў сялян на паншчыну па гуку трубы. На панскія палеткі прыгонных вялі пад канвоем конных з нагайкамі. На раллі пераклічка ажыццяўлялася пад мелодыю той жа трубы. За спевы польскія паны ўзнагароджвалі сялян 25 палкамі, а рускія давалі па 100-300 бізуноў. Адукаваныя памешчыкі нават жартавалі ў салонах наконт таго, якая розніца паміж мужыком і агнём. Правільны адказ гучаў так: мужыка раней раскладуць, а потым высекуць.

Назіраў аўтар і т.зв. разбор шляхты – запіс у расійскае дваранства тых, хто дакументамі дакажа сваё высакароднае паходжанне. Чыншавікі або выколічная шляхта, піша аўтар, нібыта той Айвазоўскі, працавалі "ў ніцяных і шарсцяных пальчатках" ды й хадзілі босымі! На гэтым разборы буйна нажываліся чыноўнікі і... яўрэі, відаць, самыя дасведчаныя ў тыпах папер. Гербавы аркуш паперы, як сцвярджае М.Маркс, яўрэй прадаваў за 5 руб., а тую паперу навыперадкі перапрадавалі купцы душ за 50-100 руб. З такім жа запалам і прыбыткамі працавала тут, да 1853 г., фальшываманетная фабрыка, некалі выкрытая ў славутым Шклове пры С.Зорычу.

Аўтар вылучаў адукаванасць адных толькі уніятаў, але са знявагай выстаўляе свецкую паству, якая актыўна бавілася алкаголем ва ўмовах свабоды вінакурства. Таму гарадская варта аглядала і абмацвала ўсіх уязджаючых і ўваходзячых у горад, не выключаючы і жанчын. Не выклікалі даверу нават прыстойныя стараверы-філіпоны, не гаворачы ўжо пра іх крычаўскіх братоў, якіх амаль цалкам выселілі ў Томскую губерню. Больш гасцінна ўлады абышліся з езуітамі, якіх выселілі з горада ў 1822 г. Дакладней – вывезлі на загадзя падрыхтаваных паштовых тройках жандары-кавалергарды.

Дабрачынны камітэт, які меўся выціраць слёзы гаротных беднякоў, складаўся з генерал-губернатара Хаванскага і трох жонак: самога намесніка, упраўляючага канцылярыяй і адной асобы з Пецярбурга. Члены камітэта кожны вечар праводзілі за картамі. Грошы знікалі, нібы дым "і ніводзін бедны не атрымаў з яго ні капейкі". Ну а мясцовыя масоны мелі на чале інспектара лячэбнай выправы Глюбенталя, які "дзякуючы магнетызму" атрымаў дом і маёнтак Карлава. Гэты "светач навукі" быў упэўнены, што "з першага погляду" вызначае хваробу! Аднак яснавідны вольны муляр не зберог тутэйшых масонаў ад лёсу езуітаў.

26 кароткіх лістоў успамінаў аб Віцебску М.Маркс завяршае распаўсюджанай прымаўкай:

*А вой як кепска*
*Коло Віцебска,*
*А около Оршы*
*Так яшчэ горшы,*
*А там у Міньску*
*Совсем по-свіньску.*

Відаць, так яно сапраўды і было, калі не горш. А да Кастрычніцкага збаўлення было яшчэ так далёка...

Яўген АНІШЧАНКА,
кандыдат гістарычных навук.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

(Пачатак у №№ 34-36, 38-43)

*Панядзелак, 24 студзеня.*

*Варшава, гмах МУС.*

Гураль не трываў панядзелкаў. Кожны з іх пачынаўся штотыднёвай ранішняй нарадай у дырэктара Сэлера, які любіў дэманстраваць сваю ўладу і настрой пад час разгляду заданняў. Сённяшні кепскі настрой дырэктара быў занадта добра бачны, калі Гуралю давялося далажыць пра фіяска аперацыі, скіраванай супраць біскупа Такарчука. "Ліст з Італіі" адразу выклікаў недавер прыняўшай яго законніцы. Не атрымалася. Гураль прапанаваў новы праект акцыі, распрацаваны капітанам Гайдам: прыезд журналіста з Італіі — сапраўднага, бо выяўляецца выпадковай выпадковай... бо выяд ганарыўся добрымі кантактамі ў асяроддзі тамтэйшых журналістаў, і ягоная абсалютна выпадковая сустрэча з сапраўдным ксяндзом, які перадае яму падсунутыя раней матэрыялы. Журналіст, кіраваны польскімі "сябрамі", працуе ў архівах і выпадкова трапляе на рэшту дакументаў, што пацвярджаюць ранейшыя здагадкі. Справа атрымлівае сусветны розгалас.

Дырэктар палічыў план ідыёцкім. Гураль, дарэчы, таксама, але ўжо не меў моцы, каб прыдумаць нешта новае. Ужо амаль на працягу месяца спрабаваў распрацаваць хаця б агульную канцэпцыю ўласнага плана. Дасканалага плана, які мог паўплываць на ход гісторыі.

Сакратар Краеўскі яго яшчэ не прыспешваў. Увогуле не нагадваў аб сваім існаванні, разумеючы, што не можа сказаць нічога канкрэтнага, пакуль не будзе ўзгодненая прынамсі агульная праграма візіту Папы, але Гураль адчуваў, што калі цяпер не прыдумае хоць бы ўступнага праекта, дык усё зробленае будзе марным. Не здолее, папросту не здолее! Ён ужо ведаў, што каб гарантаваць сваю ўласную бяспеку, у выкананні задання ён задзейнічае аднаго ці двух агентаў. Найлепш было б, каб ні аб чым не ведалі, не мелі магчымасці даведацца і ўвогуле не арыентаваліся, у чым бяруць удзел. Так! Сляды павінны весці да Кішчака, але не да Гураля... Можа ўблытаць у гэта Войтака Гайду? Не, глупства. Занадта вялікая рызыка. А пакуль трэба ўважліва назіраць за ходам працы ў "папскім штабе" аддзела і дзейнасцю апазіцыі.

Усміхнуўся, бо "назіранне за дзейнасцю апазіцыі" нагадвала пра Эву Марчук. Гэтую крэцінку, якая нечакана зрабілася ягонай лепшай агенткай. Яе не мог непасрэдна выкарыстаць дзеля выканання "Ззяння 2", але праз яе мог кіраваць не ведаючым сваёй ролі "Кратом". Яго вярбоўка дала ці не найлепшыя вынікі, хаця спачатку на гэта не спадзяваўся. Зноў усміхнуўся, узгадаўшы гэту гісторыю...

Тае начы, з 12 на 13 снежня 1981 года, Палац Мастоўскіх нагадваў вялікі мурашнік, у які нехта ўткнуў кій. Да будынка штохвіліны пад'язджалі і ад'язджалі машыны. Са скрыгатам адчынялася брама, каб "выплюнуць" чарговы "варанок", час ад часу праносіліся машыны "хуткай дапамогі". Службоўцы ў мундзірах міліцыі і "тайнякі" з бяспекі прывозілі дзесяткі інтэрніраваных. Адны з іх былі акуратна апранутыя, нават з невялічкімі чамаданамі ў руках, другія — узяты проста з ложкаў, у ледзьве накінутых на піжамы куртках. Усе былі разгублены, збіваліся ў невялічкія чародкі і горача перамаўляліся, стараючыся стварыць нейкі агульны вобраз сітуацыі. Нягледзячы на доўгую падрыхтоўку, усталяваны графік аперацыі цалкам разваліўся. Усе рабілі ўсё.

Маёр Гураль, дзяжурны ў Палацы Мастоўскіх, звышчалавечым высілкам спрабаваў стрымліваць сітуацыю. Якраз тады да яго звярнуўся паручнік Яхоўскі, які правёў нейкага Зыгманта Кавальчыка, які, як растлумачыў дапамагаўшы яму сяржант Друждж, "у момант затрымання выконваў абавязкі грамадзяніна, занесенага ў спіс інтэрніраваных".

— Што вы мне галаву дурыце! — выбухнуў і без таго знерваваны маёр Гураль, які не меў настрою разгадваць рэбусы. — Што значыць "выконваючы абавязкі"? Інструкцыю ведаеце?

— Калі ў месцы, дзе адбываецца ці мае адбыцца затрыманне, знаходзіцца пабочная асоба, паводзіны якой даюць падставу меркаваць, што яна можа знаходзіцца ў спісе інтэрніраваных ці папярэдзіць іншых, яна павінна быць затрымана да высвятлення справы, — працытаваў выцягнуўшыся ў струну паручнік Яхоўскі.

Маёр Гураль адчуў, што гэты малады афіцэр з "крыміналкі" папросту з яго кпіць.

— На жаль, не ўсе тут разумеюць сур'ёзнасць сітуацыі. Вайсковы стан датычыць не толькі затрыманых, пан паручнік, — сказаў ён афіцыйным тонам. — Калі прывялі сюды гэтага грамадзяніна, значыць, ён трапляе пад дзеянне артыкула, які вы так добра ведаеце. Напішыце рапарт аб затрыманні, а я высветлю, ці мелі вы да таго падставы.

Маёр Гураль вырашыў правучыць гэтага маладзёна, які яўна спрабаваў з яго кпіць. Асабіста дапрасіць гэтага Кавальчыка і калі не знойдзе (на што спадзяваўся) прычыны да затрымання, забяспечыць паручніку Яхоўскаму пакаранне за невыкананне службовых абавязкаў. Гэта будзе добра выглядаць звонку як вытрымліванне намі прынцыпаў законнасці.

— Напішыце рапарт, — паўтарыў ён, рухам галавы даючы зразумець, што ўважае размову скончанай.

Паручнік Яхоўскі здушыў у вуснах папулярны праклён, вызначаўшы прафесію маці маёра, адсалютаваў і сеў за пісанне рапарта. Зусім не шкадаваў гэтага Кавальчыка, якога спачатку быў гатовы адпусціць, калі б не тое, што ягонае веданне Канстытуцыі і ўсіх грамадзянскіх правоў павялічвалася разам з лічбай апрананых ім частак гардэроба. Калі ўрэшце, цалкам апрануты, спаслаўся на Жэнеўскую Канвенцыю і правы чалавека, гарантаваныя яму Хельсінскай канферэнцыяй, Яхоўскі вырашыў яго замкнуць. Але цяпер уся злосць з яго выйшла. Калі б мог, з задавальненнем інтэрніраваў бы гэтага надзьмутага маёра.




Нягледзячы на жудасную стомленасць і навалу працы, маёр Гураль загадаў адразу ж прывесці затрыманага Кавальчыка. Быў гатовы да поўнага разумення прыняцця ўсіх ягоных аргументаў, падкрэсліваючых поўную беспадстаўнасць затрымання. Апошні раз кінуў вокам на рапарт паручніка аб затрыманні. Зыгмант Кавальчык, народжаны... прапісаны... месца працы... Хутка прабег вачыма першыя радкі рапарта. "Затрыманы ў кватэры Яна і Эвы Кавальчык быў знойдзены ў шафе пад час агляду памяшкання. Ян Марчук, паводле словаў жонкі, знаходзіўся на з'ездзе "Салідарнасці" ў Гданьску. Акалічнасці недвухсэнсоўна паказваюць на блізкую сувязь Эвы Марчук з затрыманым Кавальчыкам". Пакуль нічога асаблівага, — падумаў, усміхнуўшыся, Гураль. Увогуле, можна заняцца гэтай Марчук. Атрыманне кагосьці з сям'і буйнога дзеяча "Салідарнасці"... — "Пад час размовы затрыманы Кавальчык пратэставаў супраць нібыта незаконнасці затрымання, парушэння Канстытуцыі, дзеючага ў Польшчы права, а таксама Жэнеўскай канвенцыі і пастановаў Хельсінскай канферэнцыі". Чыстая камедыя, — падсумаваў Гураль.

— Увядзіце, — загадаў ён.

— Прашу сесці. Я Януш Дуброўскі, маёр Службы Бяспекі, — звярнуўся Гураль да ўвайшоўшага ў пакой допыту Кавальчыка. — Я хацеў бы пагаварыць з вамі пра акалічнасці затрымання. Ці...

— Я пратэстую! — перапыніў яго на паўслове Кавальчык. — Я пратэстую супраць жорсткасці, ужытай да мяне пад час затрымання...

— Не ёсць пан арыштаваным, — паспрабаваў супакоіць яго Гураль, трохі разгублены гвалтоўнасцю атакі.

— Арышт ці інтэрніраванне, — гэта толькі пустыя словы, якія маскіруюць звыклае бяспраўе! — крычаў Кавальчык. — Дык паведамляю вам, што, згодна з дзеючым правам, адмаўляюся ад паказанняў. Гэта мне гарантуе Канстытуцыя. Не думайце, — працягваў ён, абвінаваўча паказваючы пальцам на Гураля, — я ўжо меў з вамі справу і ведаю вашыя метады. Нічога з мяне не выцягнеце. Шкада вашага часу, пан маёр, — скончыў ён.

Божа, здзівіўся Гураль. Гэты тып альбо Валенса, Гвязда і Рулеўскі ў адной асобе, альбо... Ён перасмыкнуў прэчыма. У кожным выпадку варта яго трохі патрымаць і паназіраць, што з таго атрымаецца. Націснуў гузік на стале.

— Падрыхтуйце мне рашэнне аб інтэрніраванні.

— Ну, Олек, арол ці рэшка? — спытаў маёр Гураль праз два дні, уваходзячы ў пакой, які ён займаў напалам з капітанам Сканецкім.

— Рэшка, — адказаў той. — Аб стол і на падлогу.

Пытанне, роўна як і доказ, былі сталым элементам іхняй гульні. Так вырашалі, хто пад час допыту выканае ролю "добрага", а хто "злога" паліцыянта. У абедзвюх ролях былі роўна добрымі. Маёр выцягнуў з кішэні дзесяць злотых, паклаў манету на пазногаць і пстрыкнуў угару. Манета страліла як з катапульты.

— Арол, — пахмурна сказаў Сканецкі, падняўшы яе з падлогі. — Халерны арол, ужо трэці раз за гэты месяц. Пройгрыш азначаў ролю "злога", а ў чалавечай натуры ёсць нешта такое, што заўсёды патрабуе быць добрым. — Дык кім зоймемся? Кардыналам, служкам, жабраком, ці свецкаю дамай? Калі апошняе, то не шкадую, што прайграў.

— Гэтым разам шкадуй, бо не "свецкай дамай", але "кінутай жонкай", — пажартаваў Гураль. — Пазнаёмся з гэтым, — кінуў ён на стол рэгістрацыйную картку "Кандыдата на тайнае супрацоўніцтва" і рапарт Яхоўскага. — Я выклікаў яе нібыта дзеля дадатковых тлумачэнняў у справе таго Кавальчыка, там усё напісана.

— Перададзім яе потым "тройцы"? — з незадавальненнем спытаў Сканецкі, праглядаючы паперы.

— Ты здурнеў. Калі падпіша, то пазней мы зможам распісаць план наладжвання з ёй кантактаў і пазначым, што мае карысныя кантакты з Курыяй ці нешта накшталт таго. Нікому не трэба ведаць, як яна трапіла нам у рукі. Вярбоўка, згодна з правіламі, павінна быць цяжкай справай. Калі гэта — пусты калодзеж, аддадзім яе "тройцы", можа там з яе нешта выціснуць. Але калі, бог дасць, гэта крыніца інфармацыі, дык я сам вазьмуся яе весці. Добра, ты пачынаеш, я пераймаю, — кінуў Гураль, атрымаўшы званок з бюро прапускоў аб прыходзе грамадзянкі Эвы Марчук.

— Прашу садзіцца, — звярнуўся Сканецкі да прыведзенай функцыянерам у цывільным маладой жанчыны. Хіба гэты паскуда мае манету з двума арламі — са злосцю падумаў ён аб сваім начальніку. Адзін погляд на сядзеўшую перад ім дзяўчыну замацаваў у ім перакананне аб вяршынстве дабра над злом. Была вельмі ладнай. Доўгія, зграбныя ногі (пачаў здолу) пераходзілі ў мякка абрысаваныя сцёгны. Талія і ўсё, што вышэй, выглядала яшчэ лепш. Выступаючыя наперад, але не завялікія грудзі, доўгая шыя і твар як з рэкламы першакласнае касметыкі. Шмат аддаў бы, каб мець рэшку. Мусіў узяць сябе ў рукі, каб не змякчыць шмат разоў выпрабаванага першага ўражання.

— Грамадзянка Марчук, ці мелі вы з інтэрніраваным Кавальчыкам нейкія іншыя адносіны, акрамя ложкавых? — спытаў ён з вымеранай бесцырымоннасцю, крыўдна працягнуўшы слова "адносіны".

— Як пан можа... — пачырванела Эва Марчук.

— Я не быў бы такім уражлівым, калі б мяне знайшлі ў ложку з каханкам пад час адсутнасці гераічнага мужа, які змагаецца за будучыню Польшчы, — закпіў Сканецкі. — Урэшце, мяне не датычыць, як пані будзе тлумачыць гэта мужу пад час сустрэчы. Я мушу толькі ўдакладніць пэўныя акалічнасці, каб упісаць іх у пратакол агляду кватэры перад тым, як мы вышлем яго вашаму мужу. Для яго гэта будзе хвалюючае чытанне.

— Вы не зробіце гэтага! Вы не маеце права! — Эва з істэрычным крыкам сарвалася з крэсла.

— Дай дзяўчыне спакой, — адазваўся ціха сядзеўшы да гэтага за суседнім сталом маёр Гураль. Ён глядзеў на Эву з бачнай сімпатыяй. Заплаканая Эва толькі цяпер заўважыла, што акрамя гэтага жудаснага тыпа, які вёў допыт, у пакоі ёсць нехта яшчэ. Нават прыстойны, мільганула ў яе галаве, нягледзячы на драматызм сітуацыі. Ненавідзела ўсю бяспеку, але цяпер мусіла прызнаць, што і тут ёсць розныя людзі. Можа праз яго атрымаецца зрабіць, каб не паведамлялі Янку? Рэфлектыўна разгладзіла спадніцу і, занепакоеная станам макіяжу, палезла па люстэрка.

— Можа было б лепш, каб гэты пратакол знік, га? Навошта ламаць жыццё прыгожай жанчыне? — працягваў Гураль, звяртаючыся да Сканецкага і з цікаўнасцю назіраючы захады Эвы.

— Не мяшайся! Сам ведаеш, што такое абавязак, а я фальшаваць дакументаў не буду! — грымеў Сканецкі.

— Вой, адразу "фальшаваць". Усё магчыма ўладкаваць, — падміргнуў Эве Гураль. Тая вадзіла вачыма ад аднаго да другога, з напружаннем чакаючы выніку размовы, якая магла вырашыць ейны лёс. — Мы абыдзем інструкцыі, каб дапамагчы пані Эве, пані Эва за тое дапаможа нам... Праўда, пані Эва? — звярнуўся нечакана да яе.

Эва ўздрыгнула ад нечаканасці.

— Што значыць "дапамагчы"? — асцярожна спытала яна, адганяючы ад сябе думку, якой баялася ад самага пачатку. — Хочаце, каб данасіла вам.., — сказала яна нарэшце.

— Хай пані так не гаворыць, — усміхнуўся Гураль. Размова ідзе пра некалькі звестак...

— Не зраблю нічога, што магло б зашкодзіць майму мужу, — слаба запярэчыла яна.

— Ваш муж сядзіць і нішто ўжо не ў стане яму зашкодзіць. Хіба што звестка аб.., — хвіліну шукаў ён адпаведнага слова, каб ізноў не пакрыўдзіць яе і не парваць тонкай ніткі паразумення — аб вашых інтымных справах пад час ягонага зняволення. Размова ідзе пра звесткі, якія мы ўжо маем з іншых крыніцаў, а дакладней — толькі аб пацвярджэнні іхняй праўдзівасці, разумееце? Мы можам абяцаць, што ніхто ніколі не даведаецца, што мы атрымалі іх ад вас. Ну, дык што, пані Эва?

Калі праз два месяцы сустрэчаў сярод іншых вядомасцяў "з горада" яна перадказала Гуралю запіску з Бялолэнкі ад Зыгманта Кавальчыка (копію запіскі ўжо некалькі дзён таму атрымаў ад тамтэйшай турэмнай службы), — ён рашыўся працягнуць справу далей.

— Пані Эва, а цяпер вы зробіце так: у адказе пану Кавальчыку на гэты ліст...

Зыгмант Кавальчык знаходзіўся ў Бялолэнцы ўжо амаль два месяцы. Яго нервавала адсутнасць хоць якога асэнсаванага занятку, а таксама пакорлівасць, з якой інтэрніраваныя ўспрымалі сваё становішча. Асабіста ён ад самага пачатку быў прыхільнікам вострай канфрантацыі з адміністрацыяй турмы, прапаноўваў розныя формы пратэсту, пачынаў нават галадоўку, але мала хто яго падтрымліваў. Найгорш, на ягоны погляд, паводзілі сябе тыя, што самі мусілі падаваць усяму прыклад — тыя, хто ў мінулым быў у апазіцыі. Асобныя з іх адсядзелі, што праўда, доўгія тэрміны, але можа менавіта гэта, як ён сабе тлумачыў, утаймавала іхнюю радыкальнасць. Яны сцвярджалі, што галоўны абавязак інтэрнаванага — перачакаць, не падпісаўшы "лаялкі", а змагацца павінны тыя, што засталіся на волі. Зыгмант папросту не быў у стане прыняць настолькі абмежаваную праграму. Даходзіла да вострых спрэчак. На ягонае сцвярджэнне, што вайна — гэта вайна і абавязкам кожнага палоннага ёсць спроба ўцёку, большасць папросту паводзіла плячыма.

З цягам часу непрымальнае стаўленне да турэмнай адміністрацыі і ягоныя правакацыйныя паводзіны згуртавалі вакол яго найбольш радыкальных інтэрніраваных — тых, якія ведалі ягонае канспірацыйнае мінулае і тых, якім папросту падабалася, як ён трымаецца. Пачалі планаваць сумесны ўцёк з Бялолэнкі, абмяркоўвалі розныя варыянты, але кожны раз прыходзілі да высновы, што без дапамогі звонку нічога не атрымаецца. Халера, злаваўся Зыгмант, пад час акупацыі здолелі адбіць вязняў нават з турмы Павяк, а цяпер — нічога. Калі гуртавыя ўцёкі немагчымыя, тады вырашыў ён, трэба спрабаваць выбрацца адсюль аднаму, а потым актывізаваць тых звонку.

Праз аднаго з даглядчыкаў ён здолеў даслаць запіску Эве Марчук. Як жонка дзеяча "Салідарнасці", яна павінна ж мець нейкія кантакты. Што праўда, рассталіся пры непрыемных акалічнасцях, але Зыгмант быў перакананы, што для справы гэта не мае ніякага значэння.

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

(Працяг будзе).

# Нам спявае "ПРОСТА АЛЕН"

Імя маладога беларускага спевака Алена, напэўна, сёння пакуль не можа лічыцца агульнавядомым — песні хлопца не "раскручаныя" па радыё і на тэлебачанні. Аднак той, хто ўважліва сочыць за нашай музычнай газетай "Нотны аркуш", даўно ўжо, відаць, запрыкмеціў, што Ален трывала замацаваўся ў беларускіх гіт-парадах, якія праводзяцца нашай газетай сумесна з радыё "Свабода". На творчым шляху гэтага маленавітага спевака з Наваполацка яшчэ няшмат прэстыжных конкурсаў, фестываляў і канцэртаў. Апошні, дзе Алена сустракалі на "ўра" і неаднаразова выклікалі на "біс", быў дзіцячы фестываль у Полацку, куды Алена запрасілі госцем...



**– Ален, а ці не хочаш ты "адкрыцца"? Я маю на ўвазе тваё сапраўднае імя?**

— Ведаеш, маё сапраўднае імя многім добра вядома, не толькі маім сябрам, але і ўсім тым, хто чытае "Чырвонку" і "Нотны аркуш". Ну, а калі хто не ведае, то і не патрэбна. Я для іх застануся Аленам.

**– Раскажы тады трохі пра сябе.**

— Добра. Пра сябе заўсёды добра (жартую). Дзесяць класаў. Вучэльня і прафесія слесара кантрольна-вымяральнай апаратуры і аўтаматыкі. Потым войска. Служыў на Урале. Прыйшоў з войска і паехаў на конкурс "Лідэр-91". Да "Лідэра", праўда, быў яшчэ Наваполацкі фестываль "Рока-кола". Ну, а "Лідэр" праходзіў у Менску, рыхтаваў яго Аляксандр Вавілаў з Беларускага тэлебачання. Гэты фестываль мне нічога не даў. Я яшчэ некалькі разоў звяртаўся да Вавілава, але ўсё дарэмна. Мне сказалі, што мне тут рабіць няма чаго.

**– Гэта, відаць, таму, што ты "непрафесіянал". Прабач за такое крыўднае кляймо, але не мной яно прыдумана.**

— Справа была не толькі ў "непрафесіянале". Першы раз я прыехаў на тэлебачанне і паказаў свае песні ў стылі, так бы мовіць, "а ля "Ласкавы май". Я тады пісаў менавіта такія. Мне сказалі, што гэта нізкі ўзровень, непрафесійна. Паехаў і пачаў пісаць праграму ў Бабруйску з Вадзімам Сажыным. Песні для дзяўчынак, хлопчыкаў (нешта каля дванаццаці на расейскай мове). Як заказвалі, так мы і рабілі. Потым зноў прыехаў да Вавілава — у гэтым годзе, вясной. Праспяваў дзве песні. Пасля праслухоўвання да мяне звярнуліся з такім пытаннем: "Навошта табе гэты конкурс?" Я адразу падумаў, што сапраўды не патрэбен мне гэты конкурс, паехаў ды напіўся з гора. На наступны дзень прыехаў на тэлебачанне, сустрэў знаёмага хлопца Юру Мудрыка (дарэчы, вельмі класны спявак з Гарodзенскай вобласці, быў другім пасля Хлястова на "Лідэры"). Размаўляем з ім, а да нас падыходзіць Таццяна Касмачова і кажа: "Ален, пайшлі, у цябе класныя песні..." Я пайшоў і... сказаў усё, што я пра іх думаю. Яны, як і трэба было чакаць, пачалі мяне вучыць: "Малады чалавек, вы не так з намі размаўляеце! Так, "Гаворыць Гродна" — гэта песня пра што? Пра п'яніц?" Я адказаў: "Вось вы мяне зараз прагоніце, я выйду на вуліцу, нап'юся, сяду на лаўку, а там мужык ужо сядзіць, вось я яму і раскажу ўсё. Пра гэта і песня". Яны мне параілі ехаць дадому...

**– Гэта ўсё, што параілі на тэлебачанні?**

— Не, праўда, сказалі, каб я аддаў свае песні, а яны, прафесіяналы, знойдуць тут выканаўцу.

**– Значыць, усё ж убачылі ў табе нядрэннага тэкставіка і кампазітара.**

— Так. Кампазітар Зміцер Яўтуховіч, які быў там, нават пахваліў: "О, клас! Якія песні! А ў вас гэта на нотах запісана?" Я яму адказаў, што не ведаю аніводнай ноты. Вось так. Потым паехаў да Юркі Мудрыка. У яго быў адзін хлопец, Руслан Кірычук, які таксама ўдзельнічаў у конкурсе. Я і даў Руслану праспяваць дзве свае песні. Пасля, як высветлілася, на тэлебачанні сказалі, што песні Алена ўвогуле тут гучаць не будуць. Чаму? А таму, што была размова, на якой адкрытым тэкстам сказалі, што "ў нас ёсць свае паэты, свае кампазітары і свае выканаўцы", а я ў гэтую "кагорту" не ўваходжу.

**– Дык а чый жа ты?**

— Ну, быццам бы, не "свой". Але ж мы "прапіхнулі" адну песню. Словы мае, а музыка Юркі Мудрыка. Быў аўтарскі вечар Яўтуховіча, і ўсім прапаноўвалі спяваць ягоныя песні. Дарэчы, песні ўвогуле "не прагучалі", таму што іх падалі як "ламбаду". Усё, болей у Мінск я вырашыў не ездзіць. Мяне запрасілі ў Віцебск на дзіцячы фестываль, які праводзіла фірма, з якой я зараз супрацоўнічаю, —"Сінхра-рэкордс". Там я сустрэўся з Андрэем Хлястовым. Той збіраўся ехаць на Сопацкі фестываль і меў намер праспяваць там адну маю песню — "Вяртайцеся". Я яго запрасіў да сябе ў Наваполацк і паабяцаў аддаць песню. Але болей, на жаль, з Андрэем мы не ўбачыліся.

**– Ты так падрабязна спыняўся на ўсіх сваіх няспраўджаных конкурсах у Менску, але нічога не гаварыў пра іншыя свае выступленні...**

— А іншымі былі толькі два "Басовішчы", ды Наваполацкае "Рока-кола".

**–Ален, вось ты казаў, што пачынаючым ты быў "а ля "Ласкавы май" і пісаў на расейскай мове. А калі ты пачаў ператварацца ў свядомага беларуса?**

— Першую песню на беларускай мове я напісаў, здаецца, у дзевятым класе. Называлася яна "Алёнка". Потым была яшчэ адна песня —"Ноч на Івана Купалу". Яна вельмі ўсім падабалася, але была на расейскай мове і таму я яе не спяваў. Мне цікава пісаць і спяваць па-беларуску, бо я сам беларус, нарадзіўся і жыву на Беларусі. Акрамя таго, беларуская мова вельмі песенная, мілагучная. Яна да мяне прыкіпела яшчэ з маленства разам з маёй бабуляй. Я, канешне, не магу сказаць, што спяваю выключна па-беларуску, але беларускія песні мне падабаюцца больш. А на расейскай прыходзіцца пісаць, калі ёсць якія-небудзь заказы.

**– А як жа ты пішаш, калі не ведаеш нотаў?**

— У мяне ёсць гітара. А мелодыя нараджаецца ў галаве. Я пяю песню пад гітару. Потым паказваю прафесійным аранжыроўшчыкам і яны робяць аранжыроўку. А сваіх нотаў няма — "непрафесіянал", не здольны.

**– Сапраўды, "непрафесіяналам" не пазайздросціш – іх талент лёгка перакрэслівае адсутнасць пэўнай даведкі. Гэта я вяртаюся да тэмы, што ты закрануў у пачатку размовы.**

— А, непаразуменне з "сапраўдным мастацтвам"? Ну, пра тэлебачанне я ўжо ўспомніў. На радыё карціна падобная. Тэлефаную ў музычную рэдакцыю, а мне раяць: "Калі ў вас няма музычнай адукацыі, то да Віталя Сямашкі звяртайцеся". А я не хачу, не бачу сэнсу. Неяк так і сказаў яму: "Віталь! А што дае твой гіт-парад? Ды нічога не дае". І таму я адмаўляюся ад удзелу ў ім. Ацэнку тут дае не слухач, а вядучы, і гэта вельмі суб'ектыўна.

**– Але ў гіт-парадах "Чырвонкі" ты ўдзельнічаеш і, відаць, лічыш, што Мартыненкаўскі гіт-парад нешта дае?**

— Ну, Мартыненка — хлопец шчыры і не будзе хваліць тое, што пахвалы не заслугоўвае. Гэта, па-першае. Па-другое, я паважаю ягоны густ. І ў рэшце рэшт, я, канешне, ведаю, што ён любіць рок, але і мае песні яму падабаюцца. І я вельмі задаволены.

**– Ален, ці ўяўляеш ты сябе, скажам, праз некалькі гадоў, кумірам беларускай моладзі?**

— Уся справа ў тым, што ў нас на Беларусі ніколі не было эстрадных куміраў сярод сваіх.Толькі расейскія. І ў бліжэйшы час, мне падаецца, беларускі кумір не з'явіцца, бо асяроддзе толькі фарміруецца, слухач не падрыхтаваны. Але я хачу стаць кумірам, і хачу знайсці свой шлях, а не гуляючымі мышцамі вабіць да сябе. Ну, а наконт куміра, хто можа ім стаць? Упэўнены, толькі не тыя, хто з болем у сэрцы спявае сёння пра пакуты Расіі. Бедныя, як яны ўсе за Расію хвалююцца, што я і сам плакаць пачынаю. Зразумела, калі пра гэта спяваў Талькоў, расіянін, а вось у нас, беларусаў, хапае і свайго болю.

**– Ален, ці можаш ты напісаць песню ў экстрэмальных умовах, скажам, па неабходнасці?**

— Адзін раз я напісаў менавіта па неабходнасці. Справа была ў Польшчы, на "Басовішчы". Скончыўся фестываль, трэба ехаць дадому, а ў нас ані капейкі. Што рабіць? Паехалі мы на кірмаш і пачалі спяваць. Я там напісаў песню. Спантанна. Вось некалькі радкоў: "Недзе на радзіме чакае маці, любая дзяўчына слезы ліе, выпала ім доля, доля чакаці, а сынок у Польшчы песні пяе... Эй, хто падасць беднаму музыканціку, хто падасць беднаму музыканціку, хто падасць беднаму яму, хто падасць беднаму музыканціку". І падалі. Хапіла на ежу, білеты дадому. Адным словам, зарабілі. Пашанцавала.

**– А ці часта шанцуе?**

— Не шанцуе толькі ў каханні. Нават не ведаю чаму.

**– І апошняе. Чаму ўсё ж Ален? Можа ў гэтым тваім псеўданіме штосьці ёсць?**

— Ёсць толькі чатыры песні з адной назвай — "Алёна". Алёна — вельмі мілагучнае імя, добра спяваецца. Ну, і потым, Ален — гэта своеасаблівае ўздзеянне на падсвядомасць. Гэтае імя прысутнічае, бадай, ва ўсіх замежных фільмах, а, значыць, застаецца ў памяці. Такім шляхам ішлі ў свой час Цой і "Кіно". Кіно — назва, якую сустракаеш паўсюль, нават у вёсцы, дзе вісіць клубная афіша. Я хачу, каб я таксама запомніўся. Але, у першую чаргу, зразумела, песнямі...

Размова наша скончылася, а Алена чакала яшчэ выступленне на заключным дні фестывалю. І, як і раней, яго зноў аб'явілі: "Спявае проста Ален..."

Гутарку вяла
Майя ШЭНДРЫК.

## Апладысменты!

Творчая група Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча распачала працу над спектаклем па п'есе вядомага беларускага драматурга Мікалая Матукоўскага "Калізей". П'еса расказвае пра складанасці нашага часу і ролю асобы ў грамадскім жыцці. Ставіць спектакль мастацкі кіраўнік — Аляксандра Салаўёва.

* * *

23 кастрычніка ў Белдзяржфілармоніі адкрыў свой сезон Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі Валянціна Дудкевіча. Гледачам была прапанавана праграма, складзеная з беларускіх народных танцаў.

* * *

Рыхтуецца адкрыццё экспазіцыі Дзяржаўнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь у рэстаўрыраванай паўднёва-заходняй (так званай "гарматнай") вежы Мірскага замка. Гэта першы крок да музеефікацыі гэтага славутага помніка беларускай гісторыі і культуры.

* * *

30 кастрычніка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 110-й гадавіне з дня нараджэння Я.Коласа.

* * *

22—23 кастрычніка адбыўся з'езд Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь. І, нягледзячы на пэўныя спадзяванні яго ўдзельнікаў, прайшоў з'езд у лепшых застойных традыцыях.

* * *

У Дзяржаўным мастацкім музеі РБ працягвае экспанавацца выстава Алеся Марачкіна.

* * *

27 кастрычніка вядомы ансамбль "Свята" адбывае ў Йошкар-Олу для ўдзелу ў музычным фестывалі "Марыйская музычная восень".



## Пра "гэта"

### САМЫЯ ПАРНАГРАФІЧНЫЯ МАКАРОНЫ

Італьянскія гаспадыні атрымалі вясёленькі падарунак ад уладальнікаў некаторых магазінаў. На іх прылаўках з'явіўся крыху незвычайны тавар – макароны ў форме... мужчынскага палавога члена. Прыгожыя ўпакоўкі, як вы правільна здагадаліся, не залежваюцца. Сёння італьянкі, якім, відаць, надакучыла звычайнае спагеці, маюць магчымасць унесці элемент навізны ў традыцыйную сямейную вячэру. Праўда, новая страва зусім не спадабалася каталіцкім святарам, якія настойліва заклікаюць прыхаджан не купляць у крамах макароны такога парнаграфічнага выгляду.



### СЕКС — СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ

Адна з апошніх процізачаткавых навінак на Захадзе – жаночы прэзерватыў. Ён зарэкамендаваў сябе з самага лепшага боку і карыстаецца заслужанай папулярнасцю дзякуючы сваёй арыгінальнай форме. Кажуць, "навінка" мае вельмі камічны выгляд. Зірнуўшы на яе, мужчыны пачынаюць так смяяцца, што пасля ўжо ні на што не здольныя. Гарантыя не зацяжарыць – стопрацэнтная.

Вышэйпрыведзены факт яшчэ раз пацвярджае: секс – справа сур'ёзная.



### КОЖНЫ ДЗЕСЯТЫ — ІМПАТЭНТ

У Англіі сацыёлагі правялі шэраг даследаванняў, у выніку якіх высветлілася даволі сумная рэч: кожны дзесяты прадстаўнік моцнага полу – імпатэнт. Прычыны такога катастрафічнага паказчыка, на думку вучоных, непасрэдна звязаны з эканамічнай нестабільнасцю грамадства. Высокія цэны, матэрыяльная незабяспечанасць, празмерныя нагрузкі на рабоце – вось тое, што вымушае кожнага дзесятага англічаніна звяртацца да ўрача з пэўнымі праблемамі. Дзякуй Богу, у нас такімі даследаваннямі ніхто не займаецца. Вынікі, трэба думаць, былі б яшчэ больш вартыя жалю.

Па матэрыялах друку.

# РАЗМОВА З НЕЗНАЁМКАЙ

## Небяспечнасць сексуальнага галадання



Неяк, вяртаючыся з Бягомля, з-за адсутнасці білетаў на аўтобус прыйшлося затрымацца на станцыі. І хоць было даволі холадна, выйшаў на вуліцу, прысеў на лаўку побач з дзвюма жанчынамі. Адной было каля трыццаці гадоў, другой — ад сілы дзевятнаццаць—дваццаць. Гаварыла старэйшая, і я міжволі пачуў яе павучанне: "Ты свайго Ігара не вельмі балуй. Калі што не так — сцялі яму ў іншым пакоі. Гэта ведаеш як на мужчын дзейнічае?"

Здавалася, яна зусім не саромелася мяне, чужога чалавека. А я не лічыў прыстойным умешвацца. Ды ці павераць, што я — сацыёлаг, які добра ведае праблемы дысгармоніі ў шлюбе? Колькі на маёй памяці адбывалася канфліктаў у сем'ях з-за такіх вось "павучанняў". У час сустрэч і размоў з моладдзю, з жаночай аўдыторыяй шмат разоў чуў нешта падобнае: маўляў, трэба "выхоўваць" мужчын. Хай адчуюць смак сексуальнага голаду. Будуць болей цаніць жонку, залежаць ад яе. Як хочацца засцерагчы жанчын ад такіх учынкаў: сямейным жыццём неабходна даражыць.

Сёння прадстаўніцы чароўнага полу адчуваюць сябе раўнапраўнымі з мужчынамі не толькі ў эканамічным, але і ў сексуальным плане, а часта і пераўзыходзяць іх у мастацтве кахання. Але ўсялякае раўнапраўе, а тым больш раўнапраўе ў ложку, прадугледжвае давер адзін да аднаго, найбольшую шчырасць у адносінах, раскаванасць. Не прыкідвайцеся, быццам вы халаднейшыя, чым гэта ёсць на самай справе, не прывучайце сябе да стрыманасці. Скажыце мужу пра свае адчуванні, шапніце яму, якія дакрананні вам больш прыемныя. Калі вам добра, хай ён ведае пра гэта. Запэўніваю вас, што мужчыну такія прызнанні проста неабходныя, што ён вельмі шануе жанчыну, з якой адчувае сябе паўнацэнным...

Я не знаёмы з Ігарам, пра якога выпадкова даведаўся з размовы дзвюх жанчын, але, зыходзячы з прафесійных ведаў, вопыту магу меркаваць, што, як кожны мужчына, ён вельмі чуллівы да ўсяго, што датычыцца ацэнкі яго мужчынскіх якасцяў. І чуллівы, і недаверлівы.

Калі я даваў кансультацыі па інтымных пытаннях маладым мужчынам, не раз бачыў, як яны, зусім нармальныя ў адносінах сексу, былі прыгнечаныя меркаваннем, што не задавальняюць сваіх жонак. У залежнасці ад сваіх асабістых якасцей і маральных устояў, многія з іх рабілі з гэтага меркавання розныя вывады, але значная частка прыходзіла да рашэння праверыць сябе "на баку", з іншай жанчынай. Ці ж гэтага вы жадаеце, мілыя незнаёмкі?

Я разумею, што часам у вас узнікае неабходнасць, як выказваліся даўней, "адмовіць мужу ад ложка". Калі вы, напрыклад, хворыя, стаміліся, нечым засмучаныя, то зрабіце гэта далікатна, растлумачце ўсё як ёсць. Але не ператварайце сваю адмову ў выхаваўчую меру. Злаўжываць адмовамі рызыкоўна: чым радзей палавыя акты, тым карацей іх працягласць. Кароткія акты не задавальняюць жанчыну, яна не паспявае дасягнуць кульмінацыйнай кропкі. Гэта робіць для яе блізкасць усё менш жаданай, і яна ўжо непрытворна яе пазбягае. Перапынкі становяцца большымі, задаволенасць жанчыны — меншай. Вось і дысгармонія, вось і разлад у сям'і.

Мужчына надзелены больш моцнай цягай да блізкасці і таму больш настойлівы ў сваіх патрабаваннях. Калі вы ўступаеце, не падкрэслівайце, што гэта ўступка цяжкая, непрыемная для вас. Хіба ў іншых выпадках вы ніколі не ўступалі просьбам мужа — чалавека, якога кахаеце?

Упэўнены, што з гадамі ў вас абаіх выпрацуецца інтуіцыя, якая дапаможа без слоў разумець настрой і стан адзін аднаго. А пакуль вам неабходна ведаць, што і муж мае права ўхіліцца ад таго, што прынята называць (дарэчы, не зусім правільна) "шлюбным абавязкам". І зусім не таму, што ён вас стаў менш кахаць, і нават не таму, што ў яго няма жадання. Проста не заўсёды безадмоўна ўключаюцца тыя складаныя фізіялагічныя механізмы, якія забяспечваюць здольнасці мужчыны.

Ён і сам засмучаны гэтым. А вы, каб не ўзмацняць яго засмучэнняў, будзьце непрыкметна спагадлівымі да гэтай часовай слабасці, не звяртайце ўвагі на недамаганне. Усё пройдзе, тым больш, што часцей у аснове праяўлення "мужчынскай слабасці" ляжыць нервовае перанапружанне, стомленасць, захопленасць якой-небудзь важнай справай.

Неразуменне падобных момантаў у інтымных адносінах, падкрэсленае незадавальненне або нават грубыя папрокі жонкі прыводзяць да вельмі небяспечных вынікаў.

...Гэты выпадак надоўга пакінуў "рубец" у памяці. Бо Сашу, майго суседа, ведаў амаль з пялёнак. Кемлівы, добры, з залатым медалём скончыў школу. І адразу ж паступіў у Беларускі тэхналагічны інстытут. Неяк з сябрам паехаў адпачываць на Нарач і пазнаёміўся з Галінай. Бацькоў Сашы крыху непакоіла, што Галя скончыла толькі школу, вучыцца далей не хацела, жадання ісці працаваць у яе таксама не было. Затое праглядвалася цяга да "прыгожага жыцця". Галя даволі часта ездзіла ў Польшчу і ўмела рабіць на гэтым грошы... Між іншым, мой малады сусед скончыў інстытут, паступіў у аспірантуру, вечарамі хадзіў на заняткі па вывучэнню англійскай мовы. На гэты час ён ужо ажаніўся з Галінай. Нарадзіўся сын. На Паўднёвым Захадзе Мінска была знята прыватная кватэра. Прыйшлося бацькам Сашы плаціць за яе. Маці Галіны таксама выйшла замуж, паехала ў Ніжні Ноўгарад і не вельмі турбавалася пра лёс дачкі...

З-за штодзённых клопатаў мы з Сашам доўга не бачыліся. З моманту яго вяселля прайшло каля двух гадоў, і вось неяк ён, узрушаны, пазваніў па тэлефоне і папрасіў тэрмінова сустрэцца са мной. Наша размова, а дакладней, споведзь Сашы цягнулася амаль тры гадзіны. Расказваў ён пра складанасці ў сямейным жыцці, у адносінах з Галяй. Пра яе патрабаванні да яго — зарабляць, зарабляць,зарабляць, каб "шмоткі" можна было купляць толькі ў камерцыйных магазінах. Часта, пакідаючы на мужа малога, яна ішла з дому. На пытанне "куды?" адказвала — шукаць "спонсара". "Які з цябе толк?" — усё часцей стала папракаць яна Сашу.

Галя была першай і адзінай любімай жанчынай для свайго маладога і не вельмі дасведчанага ў пытаннях сексу мужа. Яна ведала гэта і пастаянна ставіла ўмовы: калі сёння ляжаш са мной у ложак, каб два тыдні не хадзіў да бацькоў.

Саша замкнуўся ў сабе. Я разумеў усё гэта і адчуваў набліжэнне бяды, якую так і не змог прадухіліць.

Ён пайшоў з жыцця. Адзіны сын, малады бацька, муж... Магчыма, Галя і сустрэне лепшага палюбоўніка, але такога вернага сябра — ніколі...

Задумайся, мая незнаёмка, і супыніся ў сваім імкненні бясконца і беспрычынна абвінавачваць мужа. А можа, яму стала не хапаць стымулаў, якія зыходзілі б ад цябе? Калі б мяне спыталі, што рабіць, каб муж не страціў свежасці пачуцця, я б адказаў: будзьце заўсёды жаноцкімі. Жаноцкасць — гэта і мяккасць, і разуменне, і талент стварыць утульнасць у доме, і гатоўнасць лашчыць, апякаць, суцяшаць. Гэта, бясспрэчна, уменне сачыць за сабой. Брудනаватая начная сарочка з абарванымі гузікамі не прыносіць у ложак свежасць успрымання, таямнічую навізну. Вядома, наш быт і асабліва ваш быт складаны, але... Галоўнае для вашага мужа, каб не зыходзілі ад вас токі раздражнёнасці, каб побач з вамі ён адчуваў сябе лёгка і ўпэўнена... Так, разумеючы адзін аднаго, дажывяце з каханым да сярэбранага вяселля. А магчыма, і да залатога...

Міхаіл ЛІБІНТАЎ.

Фота Аляксея МАЦЮША

## У нас у гасцях — часопіс "Фантакрым-PRESS"

Першыя нумары часопіса "Фантакрым-PRESS" (заснавальнік — выдавецка-паліграфічная кампанія "Эрыдан") разышліся сярод чытачоў.

Што прынеслі яны з сабою?

Спадзяемся, дапамаглі адпачыць ад палітычнай наэлектрызаванасці традыцыйных выданняў. Часопіс імкнецца да вечных тэм. Напрыклад, космас і чалавек як касмічная і таму нязведаная пакуль поўнасцю з'ява. Гэта, калі можна так сказаць, вертыкаль інтарэсаў часопіса. Гарызантальны зрэз шырэйшы, больш разнастайны: феномены, прыгоды, экспедыцыі за нераскрытымі таямніцамі, загадкавыя старонкі гісторыі, дзіўныя падзеі і неверагодныя супадзенні абставін, арыгінальныя навуковыя гіпотэзы, непасрэдныя назіранні за НЛА, даўнейшыя вядзьмарскія рэцэпты, полтэргейст, снежны чалавек, астралогія, біялакацыя, спірытызм — не пералічыць усяго! Не абыдзены, зразумела, і чыста літаратурныя жанры — фантастыка, дэтэктыў.

Перад вамі — матэрыял часопіса, які выйдзе ў свет да канца гэтага года.

# КАЛІ ПАХНЕ СМАЖАНЫМ...

Лічыцца, што нармальны чалавек, уладальнік нічым не прыкметнага, звычайнага адчування паху, здольны дакладна вызначыць толькі дастаткова моцныя пахі, а нюансы яму недаступныя. Вядома, што нямногія выключэнні з гэтага правіла часцей за ўсё знаходзяцца ў штаце парфумерных фабрык на пасадзе нюхачоў – памятаеце Нарцыса з фільма "Небяспечны ўзрост"? Урач-псіхатэрапеўт Аляксандр Андрэенкаў з такой пастаноўкай пытання не спрачаецца: сапраўдных нюхачоў – невялічкія часткі працэнта ў агульнай масе насельніцтва. Аднак, не адчуваць паху з-за яго слабасці і таму сцвярджаць, што ніякага ўздзеяння на псіхіку і паводзіны чалавека ён, пах, не робіць – у корані няправільна. Так гаворыць Андрэенкаў і раіць успрымаць, напрыклад, банальную фразу "каб духу твайго тут не было!" не толькі ў фігуральным, але і ў літаральным сэнсе...

**– Аляксандр Іванавіч, раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра вашыя даследаванні.**

— У быце мы звычайна недаацэньваем уплыў пахаў на прывабнасць чалавека, хоць яны — магутнейшы сродак уздзеяння на паводзіны і мысленне гома сапіенса. Што мы ведаем пра пахі, якія "выпраменьвае" цела, пра шляхі іх паляпшэння?

**– Дзіўная пастаноўка пытання... Неабходна часцей мыцца. А таксама прымяняць дэзадаранты, духі, адэкалоны. Правільна?**

— Ну, гэта агульнапрынятыя рэкамендацыі. А мяне зацікавілі натуральныя пахі, якія выдзяляе цела чалавека, — фeрамоны. Хоць органы нюху ў нас слабейшыя ў параўнанні з жывёлінымі — гэта не значыць, што пахі не ўздзейнічаюць на нашу свядомасць. Улада фeрамонаў тым мацнейшая, чым менш мы іх адчуваем, усведамляем. Гэта, як у гамеапатыі, малыя дозы лекаў — найбольшы эфект уздзеяння на арганізм.

Мы, як правіла, пераацэньваем сілу свайго інтэлекту, часам залішне псіхалагізуем чалавечыя ўзаемаадносіны там, дзе яны падпарадкоўваюцца біялагічным уплывам. Да прыкладу, чалавек вамі ўспрымаецца як разумны, значны, тонкі, прывабны і да таго падобнае. А на самай справе ваша мысленне, свядомасць падчас ідуць на поваадзе ў зусім іншых уздзеянняў, стымулаў. У прыватнасці — пахаў.

**– Вывад: мыцца трэба радзей. Я правільна вас зразумеў?**

— Чаму ж, мыцца неабходна.

**– Дзе ж выйсце?**

— Выйсце ў тым, каб навучыць цела выдзяляць тыя самыя пахі, якія прываблiваюць чалавека, скажам, процілеглага полу. Тады значна ўзрастуць шанцы на стварэнне моцнай сям'і.

**– Фантастыка! Хаця чаму, уласна, фантастыка? Бо нярэдка сустракаюцца знешне непрывабныя мужчыны і жанчыны, якія валодаюць прыродным дарам вабіць да сябе...**

— Вось менавіта: часам чалавек ад нараджэння надзелены такімі "здольнасцямі". Але не трэба сумаваць і ўсім іншым. Нават тым, хто выдзяляе рэчывы, якія "адштурхоўваюць", і пры гэтым зусім не здагадваецца аб прычынах канфліктаў і бязладдзя ў сваім жыцці.

З гэтай праблемай сутыкнуліся амерыканскія ваенныя псіхолагі ў час вайны ў В'етнаме. Тады была вызначана важная прычына канфліктаў сярод салдат: спецыяльныя даследаванні выявілі "выпраменьванне" скурай рэчываў (так званых "рэпелентаў"), якія выклікаюць трывожны і панічны стан чалавека.

**– Паслухаць вас, дык атрымліваецца, што псіхалагічны стан чалавека ўплывае на выпрацоўку фeрамонаў, якія прыцягваюць і адштурхоўваюць.**

— Безумоўна! Ярка пафарбаваныя думкі, эмацыянальны, фізічны стан, многія іншыя фактары ўздзейнічаюць на выпрацоўку гэтых рэчываў. Гэта дапамагло мне распрацаваць і выкарыстоўваць з вялікім поспехам методыку спецыяльнага псіхатэрапеўтычнага ўздзеяння, накіраваную на нармалізацыю "выпраменьвання" паху целам.

**– Што ж гэта атрымліваецца? Чалавек прама пачынае пахнуць па-іншаму?**

— Уявіце сабе, так! Пах мяняецца, і шанцы чалавека на нармалізацыю асабістага жыцця ўзрастаюць. Мною ўжо атрыманы запрашэнні ў шэраг гарадоў, дзе са скасаваннем шлюбаў дрэнныя справы.

**– Ну, а зараз, Аляксандр Іванавіч, самы час даць некалькі бытавых парад чытачу...**

— Чалавеку часта бывае неабходны адпачынак ад пабочных пахавых "уздзеянняў". Даўняя традыцыя — мець у доме некалькі памяшканняў: спальню, гасціную, сталовую, кухню — глыбока прадумана і замацавана вопытам. Магчымасць нават кароткачасова адасобіцца значна паляпшае мікраклімат у сям'і. І вельмі непажадана доўгае сумеснае знаходжанне мужа і жонкі на кухні.

**– Чаму менавіта на кухні?**

— Тут магчымы непрадбачаныя шкодныя ўздзеянні пахаў ежы. Скажам, муж накормлены, а жонка пачынае размову "па душах" і прадаўжае гатаваць...

**– І што ж у гэтым дрэннага?**

— Эксперыментальна вызначана: накормленага мясам або рыбнай ежай мужчыну раздражняюць некаторыя кулінарныя пахі, асабліва вараных рыбы і капусты. Мужчыну раздражняе пах кухні, але ён не разумее гэтага, лічыць, што яго злуе жонка. Слова за слова — і справа можа дайсці да скандалу. Так што раю жанчынам знайсці зручную прычыну і выправаджваць мужоў з кухні пасля ежы.

**– Падумаць толькі! А мы ж... Ведаеце, я сам звяртаў увагу, што варта ежы падгарэць на пліце і – размова перастае клеіцца...**

— Яно і зразумела, гар і дым — вядомыя прыродныя рэпеленты. Іх смурод, як сігнал трывогі, моцна дзейнічае на нашу нервовую сістэму. Гэтая інфармацыя засталася нам ад далёкіх продкаў, для якіх лясны пажар быў страшным бедствам. Дарэчы, пах цыгарэтнага дыму па гэтай жа прычыне таксама з'яўляецца рэпелентам, як бы вытворцы ні намагаліся араматызаваць сваю прадукцыю. Табачны дым уздзейнічае на нервовую сістэму, псуе яе, садзейнічае арганізму выраблять уласныя рэпеленты — вось і зменшаюцца шанцы палепшыць лёс. Здавалася б, дробязь...

**– Не ўтойваю: у час нашай размовы я пачаў прынюхвацца.**

— І што ж вы адчулі?

**– Пахі мэблі, злёгку – фарбы, лінолеуму...**

— Натуральна, гэта звычайны пах устаноў і часам — жылля. Менавіта на такім шэрым "сінтэтычным" фоне, які рэзка пагаршае настрой, і праходзяць адносіны паміж людзьмі. Нагадаю: чым больш непрыкметныя, неўсвядомленыя пахі, тым магутнейшае іх уздзеянне на настрой і паводзіны.

**– І што ж вы збіраецеся рабіць з усімі гэтымі ведамі?**

— Мы заканчваем працу над рэцэптурай пахаў для прафілактыкі бясплоддзя, павышэння магчымасцяў чалавека, нармалізацыі вагі і многага іншага.

Бог дасць, хутка выйдзе мая кніга — дапаможнік па недырэктыўнаму выхаванню дзіцяці. Тыраж гэтай кнігі, зборніка казак для дзяцей і дарослых, спадзяюся апрацаваць па сваёй рэцэптуры натуральнымі рэчывамі, якія робяць станоўчы ўплыў на лекавае і... выхаваўчае ўздзеянне.

Таксама пачынаем завочнае "навучанне" прывабнасці з высылкай узораў пахаў.

Інтэрв'ю ўзяў
Аляксандр АРЛОЎ.



## Інфа-крым

### ЧАКАЙ, ПОЛАЦК! МЫ ЯШЧЭ ВЕРНЕМСЯ...

У гісторыі Полацкага АМАНа (які, дарэчы, існуе толькі каля двух гадоў) такога яшчэ не было. Аманаўцаў запрасіла ў госці (дакладней, не проста ў госці, а для абмену вопытам) Германія. За якія ж подзвігі такое запрашэнне?

Як паведаміў старшы лейтэнант Валерый Купава, камандзір роты патрульна-пастаявой службы Полацкага ГАУС, ніякіх подзвігаў яго хлопцы не здзейснілі. "Проста дзесьці ў канцы мая мы суправаджалі нямецкую гуманітарную дапамогу з Брэста ў Полацк і далей, у Санкт-Пецярбург. Немцам спадабалася наша работа, і мы атрымалі прапанову наведаць горад Этынген для абмену вопытам".

Ужо афармляюцца неабходныя дакументы, і 9 лістапада В.Купава са сваім калегам накіруюцца ў Германію ў горад Этынген, дзе прабудуць дванаццаць дзён. Усе выдаткі на паездку ўзяў на сябе нямецкі бок.

"Плануецца,– дадаў В.Купава,– заключэнне дагавора па суправаджэнню нашымі хлопцамі розных грузаў".

"Крутыя" хлопцы ў пагонах прымусілі загаварыць пра сябе ў Полацку. Цяпер пра іх даведаецца і Германія...

Франц ЛЯВІЦКІ.

### ДЗЕСЯЦЬ ПАРОЖНІХ БУТЭЛЕК І..."ХРЫСТОС ЗБАВІЦЕЛЬ"

Жыла ў Крычаве ў адным з дамоў па вуліцы Шчорса бабулька. У яе пакоі, на куце, з даўняй пары вісеў абраз Хрыста Збавіцеля. Гаспадыня прывыкла да яго, бо штодзённа ўранку і ўвечары затрымлівалася перад ім на некалькі хвілін, каб перахрысціцца і прашаптаць словы завучанай з дзяцінства малітвы.

Адкуль абраз трапіў у дом і калі – невядома. Магчыма перайшоў ад прадзедаў. А магчыма нехта выратаваў яго, калі ішло рабаванне крычаўскіх цэркваў у 30-х гадах. Вісеў ён сабе ў куце, і ніхто не ведаў пра яго сапраўдную каштоўнасць.

Бабулька памерла і ўладальніцай дома стала яе дачка, якая там не жыла, а толькі наведвалася час ад часу. Неяк яна прыехала туды і ўбачыла, што ў доме нехта пагаспадарыў без яе: дзверы былі адчынены, а замкі сарваны. З хаты прапаў абраз і 10 парожніх бутэлек: больш там нічога каштоўнага не было.

Не здагадваўся злодзей, якую каштоўнасць нёс пад пахай. Аказалася, абраз Хрыста Збавіцеля адносіцца да XIX стагоддзя і, паводле ацэнкі спецыялістаў Акадэміі мастацтваў Рэспублікі Беларусь, каштуе 80 тысяч рублёў.

Праведзенымі супрацоўнікамі ГРАУС аператыўна-вышуковымі мерапрыемствамі няпрошаны госць быў устаноўлены. Абраз вярнулі ўладальніцы, а на злодзея была заведзена крымінальная справа. На час вядзення следства яму было забаронена пакідаць месца жыхарства без дазволу. Толькі гэта не стрымала падследнага. Праз некаторы час ён разам са сваім знаёмым "наведаў" адзін з дамоў на вуліцы Вакзальнай. Адтуль мужчыны "ўмыкнулі" хатнія рэчы.

Затрымалі іх супрацоўнікі міліцыі праз нейкую гадзіну на аўтобусным прыпынку. Зараз следства закончана, і справа перададзена ў суд.

А. БАЛДОЎСКІ.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## *Лік на табло*

На жаль, у перадапошнім туры першага круга футбольнага чэмпіянату Беларусі Мінск застаўся без футбола. Матч, які павінен быў адбыцца на "Дынама", згулялі ў Стайках у прысутнасці 100 "дзяжурных" гледачоў. Мінскія дынамаўцы перамаглі віцебскі "Лакаматыў" – 1:0. Але прычына таго, што ў небагатым на футбольныя падзеі кастрычніку сталічных аматараў футбола пазбавілі магчымасці прыйсці на стадыён, вельмі ўважлівая: трэба было паберагчы поле перад адказнай сустрэчай нашай зборнай. Так што футбольнае свята яшчэ чакае сапраўдных аматараў.

Яшчэ дзве сталічныя каманды гулялі на выездзе. "Беларусь" нечакана страціла ачко ў гульні з "Ведрычам" – 2:2, прычым мінчане вялі па ходу сустрэчы – 2:0. Гульня паміж дзвюма "ахвярамі рэгламенту" – магілёўскім і мінскім "Тарпеда" – атрымалася скандальнай, што, зразумела, не дадае аўтарытэту ніводнай з каманд. Мінчане забілі першымі, але атрымалі тры мячы ў адказ (першы з іх з пенальці). Спрэчка, вядома, працягнецца за сталом дысцыплінарна-тэхнічнага камітэта. У спартыўнай спрэчцы за размеркаванне месцаў з другога па шостае адбыўся пераварот. У двух матчах сустракаліся паміж сабой каманды, якія гэтую спрэчку вядуць. Перамаглі ў іх гаспадары. КІМ – "Днепр" – 3:1, "Хімік" – "Дынама" (Брэст) – 1:0. Наогул, у гэтым туры шмат пар склалі суседзі па табліцы. У Маладзечна "Металург" уступіў "Гомсельмашу" – 0:1. У матчы "Шахцёр" – "Будаўнік" зафіксавана нулявая нічыя. Аўтсайдэры высвятлялі між сабой, хто лепшы. Пашчасціла таксама гаспадарам – на два галы "Абутніка" ў Лідзе БелАЗ адказаў толькі адным.

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| | Г | В | Н | М | П | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама Мн | 15 | 13 | 2 | 0 | 39-7 | 28 |
| Беларусь | 15 | 9 | 3 | 3 | 25-12 | 21 |
| КІМ | 14 | 7 | 5 | 2 | 18-8 | 19 |
| Хімік | 15 | 7 | 5 | 3 | 14-15 | 19 |
| Тарпеда Мг | 15 | 6 | 7 | 2 | 21-10 | 19 |
| Дынама Бр | 15 | 7 | 4 | 4 | 18-10 | 18 |
| Днепр | 15 | 7 | 4 | 4 | 21-16 | 18 |
| Шахцёр | 15 | 6 | 4 | 5 | 12-15 | 16 |
| Трактар | 15 | 5 | 6 | 4 | 12-6 | 16 |
| Тарпеда Мн | 15 | 3 | 7 | 5 | 15-18 | 13 |
| Гомсельмаш | 14 | 4 | 4 | 6 | 9-15 | 12 |
| Будаўнік | 14 | 4 | 3 | 7 | 8-13 | 11 |
| Металург | 16 | 4 | 3 | 9 | 17-25 | 11 |
| Ведрыч | 14 | 3 | 5 | 6 | 13-20 | 11 |
| Лакаматыў | 15 | 2 | 5 | 8 | 15-23 | 9 |
| Абутнік | 15 | 2 | 3 | 10 | 9-25 | 7 |
| БелАЗ | 15 | 1 | 2 | 12 | 9-37 | 4 |

Бамбардзіры: У.Каваленя ("Шахцёр") — 8, С.Бараноўскі ("Дынама" Мн), Ю.Мазурчык ("Хімік"), А.Пуціла ("Беларусь"), А.Скорабагацька ("Днепр") — па 7 мячоў.




## ДОМА ЦІ Ў ГАСЦЯХ – ЯКАЯ РОЗНІЦА?!

Працягвае звыклую серыю няўдач у розыгрышы Кубка Міжнацыянальнай хакейнай лігі мінскае "Дынама", не робячы асаблівага адрознення сваёй пляцоўкі ад чужой. Два матчы ў Мінскім Палацы спорту не прынеслі задавальнення ні заўсёднікам, ні, здаецца, самім хакеістам. Яны закончыліся з наступнымі вынікамі — 1:1 і 3:4. Прычым, у другім матчы наша каманда незадоўга да канца гульні выйгравала з лікам 3:2. Чарапавецкія хакеісты зраўнялі лік, а потым у авертайме даволі хутка вырвалі перамогу. Здаецца, адзіная за ўвесь час існавання гэтага правіла перамога мінчан у авертайме была ўсё ж выпадковай...

Затое радуюць сваіх балельшчыкаў гродзенскія і наваполацкія хакеісты, якія гуляюць у адкрытым чэмпіянаце Расіі і трывала трымаюцца ў лідэрах у сваёй зоне. "Нёман" і "Хімік" дадалі сабе чарговыя ачкі пасля апошніх перамог на сваіх пляцоўках.




### *ГАНДБОЛ*

У Таліне адбыўся першы тур Балтыйскай лігі. Беларускі гандбол стартаваў у ёй дзвюма камандамі — першым і другім саставамі мінскага СКА. Ва ўсіх пяці гульнях СКА-1 перамог сапернікаў. Спачатку, яшчэ ў Мінску, СКА-2, потым, ужо ў Таліне, каўнаскі "Гранітас", рыжскія ДІ0 і АТХК і талінскі "Каапhouseholder". СКА-2 прайграў толькі двойчы: свайму старэйшаму брату і гаспадарам пляцоўкі. Тры ж перамогі над латвійскімі і літоўскай камандамі вывелі яго на другі радок у турнірнай табліцы. Вось гэтак бы і ў выніковай!

### *ШАХМАТЫ*

## ПРАЗ ДВАЦЦАЦЬ ГОД

Набліжаецца да завяршэння чарговы шахматны "матч стагоддзя". У Югаславіі сустрэча былых уладальнікаў сусветнай шахматнай кароны Роберта Фішэра і Барыса Спаскага абрастае налётам скандальнасці. Пэўна, менавіта гэтым арганізатары спадзяваліся прыцягнуць увагу ўсяго свету. Але цікавасць прыцягнуў сам матч, яго спартыўны змест, а не толькі каляматчавыя здарэнні, якімі стракаціць прэса. Пасля дваццаць чацвёртай партыі лік 8:4 на карысць Фішэра (нічые ў залік не ідуць), і Спаскі ўзяў свой апошні чацвёрты тайм-аўт.

* * *

А ў Тылбургу на вядомым буйным шахматным турніры ўжо фінал. У ім пачалі гуляць англійскі гросмайстар Майкл Адамс і мінчанін Барыс Гельфанд. Турнір на гэты раз праходзіў па алімпійскай сістэме з выбыццём і сабраў 64 самых моцных шахматыста свету, за выключэннем, бадай, чэмпіёна Гары Каспарава. Наш зямляк згуляў у гэтым турніры вельмі моцна і перамог на шляху да фіналу Эдуардаса Разэнталіса (Літва), Ігара Штола (Чэха-Славакія), Эдвінса Кеньгіса (Латвія) і Гату Камскага (ЗША). У першай партыі фіналу Гельфанд гуляў чорнымі і дамогся нічыёй.



### *ФУТБОЛ*

## СУСТРЭЧА СТАРЫХ САПЕРНІКАЎ НА МІЖНАРОДНЫМ УЗРОЎНІ

### адбылася ў сераду на мінскім стадыёне "Дынама".

Першы свой афіцыйна зарэгістраваны ў ФІФА таварыскі міжнародны матч згуляла зборная Беларусі супраць нацыянальнай каманды суседняй Украіны. Цікава, што ў той жа дзень у Цярнопалі гулялі алімпійскія зборныя тых жа краін. Аб гэтых, безумоўна, цікавых матчах падрабязна мы раскажам у наступным нумары.

А зараз некалькі апошніх футбольных навін.

У чэмпіянаце Аўстрыі ў чарговай сустрэчы венскі "Рапід" гуляў са "Шталлю" з Лінца. Матч закончыўся ўнічыю 1:1. Спачатку сапернікі адкрылі лік, і "Рапіду" прыйшлося адыгрывацца. Мяч у адказ забіў Родакс са штрафнога. А наш Аляксандр Мятліцкі атрымаў другую ў сезоне чырвоную картку і, магчыма, будзе дыскваліфікаваны да канца папярэдняга круга. У панядзелак увечары Саша прыляцеў у Мінск, каб згуляць за зборную.

Тым жа рэйсам з Масквы прыляцеў са стажыроўкі ў Швейцарыі Юрый Антановіч, які таксама паспее згуляць за зборную. Юра быў на прагляддзе ў клубе першага дывізіёна "Аарау" разам з іграком маскоўскага "Лакаматыва", а яшчэ раней душанбінскага "Паміра" Муксінам Мухамадзіевым. Швейцарцы хацелі купіць аднаго нападаючага, ды так і не выбралі нікога з нашых патэнцыяльных легіянераў. Але паабяцалі, што ў лютым магчыма заключаць кантракт з Антановічам ці прапануюць яго іншай камандзе.

З іншых міжнародных навін паведамім вынік гульні зборнай Эстоніі на Мальце супраць каманды гаспадароў. Гэтыя каманды спрачаюцца за пуцёўку ў фінал першынства свету ў першай адборачнай групе. Лік 0:0 становіцца ўжо звыклым вынікам гульняў з удзелам прыбалтыйскіх нацыянальных каманд. Але зазначым, што эстонцы заваявалі першае ачко, згуляўшы дзве гульні.

Непрыемная навіна: наспявае скандал вакол нашага самага моцнага клуба, дарэчы, базавага клуба зборнай — мінскага "Дынама". Нагадаем, гэтаму клубу належыць яшчэ адна моцная каманда — "Беларусь". А зачынальнік канфлікту — былыя "гаспадары" футбольнага "Дынама", — аднайменнае таварыства, якое імкнецца таксама рухацца ў "прагрэсіўным" камерцыйным напрамку, але чамусьці не хоча само зарабляць грошай і ўкладваць іх у спорт, як гэта робіць клуб, а проста жыць за кошт сваёй (не набытай, а атрыманай у спадчыну) маёмасці. Зрэшты, здаецца, да гэтай тэмы прыйдзецца вярнуцца таксама ў адным з бліжэйшых нумароў. Але ў душы ўсё ж спадзяюся, што гэтага не спатрэбіцца.




Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ.
Малюнкі Віктара ДУБОВІКА.

